17 жніўня 2018 | № 29 (592)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Парсюка ў прэзідэнты!
Стар. 8



# Схіленне да капітуляцыі

## Супраць беларускіх уладаў разгортваецца самая натуральная інфавайна



Сяргей ПУЛЬША

А пошнім часам расійскія сродкі масавай прапаганды надалі Беларусі столькі ўвагі, колькі не надавалі за мінулы год. Пачалося, канешне, з інфармацыі «Незагыря» пра нібыта інсульт у Лукашэнкі. Але гэтая хваля ўсё не заціхае.

Услед за «інсультавымі» інсінуацыямі пачаліся (зноў жа — у расійскіх СМІ) разважанні: хто можа быць кіраўніком Беларусі ў выніку будучых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, якім чынам магчымая ў нашай краіне «перадача ўлады» — карацей, тая ж варажба на кававай гушчы, якая ў нас здараецца штораз перад выбарамі. Толькі ў Расіі гэта адбываецца на больш высокім узроўні. Варта зазначыць, што некаторыя іх эксперты ўжо асцярожна выказваюцца — час Лукашэнку сысці на заслужаны адпачынак.

Асобнае месца ў гэтых развагах займае фігура імавернага будучага новага пасла Расіі ў Беларусі Міхаіла Бабіча. Аляксандр Сурыкаў сядзіць тут ужо 10 гадоў, дый яму 77 — час на пенсію, нават з улікам расійскага падвышэння пенсійнага ўзросту. Зразумела, Масква жадае змяніць яго на больш энергічную фігуру. Але Бабіч — выключны «сілавік», працаваў у КДБ, ФСБ, быў прэм'ерам Чачні ў час вайны, сябра расійскага Саўбезу (з-за чаго ад такога пасла адмовілася Украіна). А яшчэ прайшла чутка, што Бабіч можа быць спецыяльным прадстаўніком Пуціна ў Беларусі. З такімі «спецпрадстаўнікамі» вельмі шчыльна знаёмая Украіна — паслы Расіі Чарнамырдзін і Зурабаў ва Украіне ў свой час мелі менавіта такі статус. У выніку нашая паўднёвая суседка атрымала Данбас і «рускую вясну».

Складваецца ўражанне, што Масква ўжо не проста зандуе глебу наконт таго, што будзе з Мінскам пасля Аляксандра Лукашэнкі. А прапрацоўваюцца сцэнары па магчымасці спакойнай перадачы ўлады каму-небудзь больш прадказальнаму і найбольш прарасійскаму.

«Вішанькай на торце» апынулася паведамленне Reuters пра тое, што Расія прыпыняе прадстаўленне Беларусі крэдытаў і мае намер абмежаваць бяспошлінныя пастаўкі нафтапрадуктаў і звадкаванага газу (СУГ) з чацвёртага квартала 2018 года. Пры гэтым інфармацыйны гігант спасылаўся на пратакол зменаў да двухбаковага міжурадавага пагаднення і тлумачальную запіску да яго нашага «Белнафтахіма».

Пазней гэтае паведамленне зняпраўдзіла расійскае Міністэрства фінансаў. Маўляў, усё ідзе згодна з планам: крэдыт на АЭС выдаецца, праца над далейшымі траншамі грашовых уліванняў ад Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця вядзецца, дакументы да новага крэдыту рыхтуюцца. Але Reuters — не тая кантора, якую проста так можна выкарыстоўваць для «зліву» інфармацыі. А, падаецца, менавіта гэта і адбылося — спроба паказаць беларускаму кіраўніцтву, як лёгка пусціць яго на дно.

І да ўсяго гэтага дадаюцца не вельмі зразумелыя паводзіны кіраўніка Беларусі. Мы ўжо даволі даўно звыклі, што Аляксандр Рыгоравіч «палюе» на Пуціна недзе ў Сочы, каб сустрэцца з ім сам-насам і павырашаць пытанні. Але зараз ролі змяніліся! Яшчэ 23 чэрвеня Пуцін запрасіў Лукашэнку на сустрэчу, а той... ужо амаль месяц адмаўляецца ехаць!




**Складваецца ўражанне, што Масква ўжо не зандуе глебу наконт таго, што будзе з Мінскам пасля Лукашэнкі, а прапрацоўвае сцэнары перадачы ўлады**

Раней Лукашэнка імкнуўся сустрэцца з кіраўніком Расіі нават тады, калі, нібыта, не было паміж краінамі праблемных пытанняў. Зараз такія пытанні відавочныя. У 2020-м заканчваецца тэрмін дзеяння дамовы па існуючых у Беларусі расійскіх вайсковых аб'ектах — станцыі сувязі ВМФ РФ пад Вілейкай і РЛС пад Ганцавічамі. Незразумелая пазіцыя Беларусі ў дачыненні да новага пасла. Расійскі «падатковы манеўр» наконт карысных выкапняў, у выніку чаго Беларусь можа страчваць да 2 мільярдаў долараў на год. І іншае, іншае, іншае. Падаецца, менавіта зараз кіраўнікам краін ёсць што абмеркаваць. Але, падобна на тое, што ўхіляецца ад сустрэчы менавіта беларускі правадыр.

Цікава, што «справа БелТА» ўзнікла менавіта ў час гэтай расійскай «інфармацыйнай артпадрыхтоўкі». Асноўныя яе фігуранты — tut.by і БелаПАН, з'яўляюцца не проста найбуйнейшымі недзяржаўнымі інфармацыйнымі рэсурсамі. Менавіта яны са сваёй прабеларускай (не будзем забывацца, што менавіта гэтыя структуры былі галоўнымі інфармацыйнымі партнёрамі і спонсарамі святкавання 100-годдзя БНР) і прадзяржаўніцкай (не блытаць з праўладнай!) пазіцыяй маглі б стаць у першых шэрагах змагання з інфармацыйнымі атакамі. І яны б гэта, я ўпэўнены, зрабілі б. Але іх працу паспрабавалі спаралізаваць. Вой, не там Аляксандр Рыгоравіч у свой час шукаў «пятую калону»!

Відавочна, што Лукашэнку падчас асабістай сустрэчы з Пуціным прыйдзецца цяжка. Нейкіх магутных козыраў для гандлю ў Лукашэнкі зараз проста няма. Можа быць, беларускі кіраўнік вытрымлівае паўзу ў спадзяванні, што яны з'явяцца. Але гэтая паўза — гульня ў абодва бакі. Яна адначасова дае і новыя магчымасці для новых інфармацыйных атак.

# Чаму Лукашэнка абурыўся «асфальтам у траве»

**Ужо даўно многія задаюцца пытаннем: а ці разумее афіцыйны лідар, што навокал паказуха? Аказалася, вельмі разумее. Вось толькі высновы робіць дзіўныя.**

Разнос па поўнай праграме зладзіў Лукашэнка падчас наведвання 13 жніўня Аршанскага інструментальнага завода. Дасталася ўсім — ад кіраўніцтва прадпрыемства і мясцовых органаў улады да міністра.

— Хутчэй за ўсё, міністра (міністра прамысловасці Віталя Воўка) сюды накіруем да цябе працаваць, — звярнуўся ён да дырэктара завода Уладзіслава Бардзюкова. — У яго выбар адзін: ці турма, ці сюды, — публічна пра гэта кажу. Пакуль двойка з мінусам, і да цябе прэтэнзій мора.

Але больш за ўсё кіраўнік дзяржавы абураўся з нагоды ашуканства, якое яму наладзілі, спрабуючы навесці парадак на тэрыторыі прадпрыемства.

— Не любіце вы людзей, не любіце вы завод. Калі ўжо робіце тут нейкую паказуху, зрабіце бардзюр, але навошта ў траву класці асфальт. Гэта што, культура? — абураўся Лукашэнка.

Гэты праведны гнеў кіраўніка дзяржавы цікавы па некалькіх прычынах. Падобным «ашуканствам» у выглядзе тэрміновага фарбавання фасадаў, укладвання і разборкі дарожнай пліткі перад прыездам Лукашэнкі чыноўнікі займаюцца цалкам паспяхова са спрадвечных часоў. «Цікава, Лукашэнка разумее, што вакол паказуха?» — задаваўся нядаўна пытаннем лідар «Гавары праўду» Андрэй Дзмітрыеў.

Адказ не прымусіў сябе чакаць: ведае.

Вось толькі ці моцна турбуе яго такое «ашуканства» падначаленых? Падобна на тое, не вельмі. Са спічу Аляксандра Рыгоравіча можна зрабіць выснову, што ён хутчэй знерваваўся з нагоды таго, што гэтую самую паказуху некалькі недапрацавалі: маглі ж «бардзюр зрабіць», а не проста «асфальт у траву пакласці». А так без належнага страху Божага падышлі да візіту важнай асобы.

І так ва ўсім, што ні вазьмі. І рост заробкаў, і сітуацыя на прадпрыемствах, і справы ў эканоміцы... Пра ўсё, як мы бачым, выдатна вядома Лукашэнку: і пра тое, што «катаржныя людзі працуюць за 200 долараў на месяц», і пра тое, што сітуацыя ў краіне блізкая да таго, каб стаць «часткай іншай дзяржавы». Але ён па-ранейшаму аддае перавагу пылу ў вочы, толькі злёгку карэктуючы яго адценні ў бок ружовага.

І ўсё таму, што іншых спосабаў змяніць сітуацыю не знаходзіцца. Нават прызнаўшы правалы, Лукашэнка ва ўпор адмаўляецца бачыць іх прычыну. І, як ужо не раз было, за ўсё ў выніку адкажуць тыя, хто паказуху злёгку недапрацаваў: міністры, дырэктары заводаў, кіраўніцтва раёнаў, а зусім не той, хто давёў сітуацыю да такога стану, што глядзець на яе без «ашуканства» проста немагчыма.

**gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

# Вясковае гета

Зінаіда ЦІМОШАК

**Звычайныя жыццёвыя клопаты ператвараюцца тут у невырашальныя праблемы. Не кожны раз з-за ямін на дарогах даязджае аўтакрама. Маршрутныя таксоўкі таксама абмінаюць гэты «мядзведжы куток». Паліклініка і пошта недасягальныя для мясцовых жыхароў. Нават указальнік з назвай вёскі — і той адсутнічае.**

Вёска Яўсеевічы знаходзіцца ў 4-х кіламетрах ад вёскі Аксаміты Грозаўскага сельскага савета, пра якую НЧ пісаў не аднойчы. Гэта яшчэ большая глыбінка, нягледзячы на адносную блізкасць да райцэнтра. У адрозненне ад Аксамітаў, тут нават у зімовы час пражываюць каля 60 чалавек. У летні час насельніцтва павялічваецца ў два разы.

Набор сацыяльных стандартаў нічым не адрозніваецца ад іншых «неперспектыўных вёсак»: парэпаны старадаўні асфальт да вёскі, вялізныя яміны ў самой вёсцы, галоўная вуліца з абодвух бакоў зарасла непраходнымі джунглямі. У савецкія часы гэта быў астравок вясковай цывілізацыі з базавай 8-гадовай школай, клубам і аўтобусным злучэннем з Мінскам. Былі і іншыя бонусы: лес, ягады, грыбы, вадаёмы, дарогі да якіх цяпер штогод паракопваюцца.

Ад жыхароў вёскі можна пачуць толькі скаргі.

— Каб патрапіць у цывілізацыю, трэба амаль гадзіну ісці пешшу да бліжэйшага аўтобуснага прыпынка, — гаворыць Надзея Галавенка. — Паштальён і аўталаўка — гэта ўсё, што маем. Бліжэйшая аптэка знаходзіцца за 7 кіламетраў. Увогуле, звычайныя жыццёвыя клопаты ператвараюцца тут у невырашальныя праблемы. Нават крама на колах (аўталаўка) даязджае да нас не кожны раз з-за ямін на дарозе. Маршрутныя таксоўкі, якія ходзяць з Капыля на Мінск, таксама абмінаюць гэты "мядзведжы куток". Недасягальнымі для нас з'яўляюцца паліклініка і пошта. Нават указальнік з назвай вёскі — і той адсутнічае.

— Выклікалі нядаўна «хуткую дапамогу» адной бабулі з Капыля. Дарэчы, ветэрану Вялікай Айчыннай вайны, — распавядае Ларыса Крот. — Дык «хуткая дапамога» не хацела ехаць. «Ой, у вас там такая дарога, машына трасецца, падвескі толькі ляцяць». А яшчэ гавораць пра клопат пра ветэранаў, якіх ужо мала засталося.

Па словах Ларысы Крот, сельскагаспадарчае прадпрыемства перакапала ўсе дарогі, якія вядуць у лес і на рыбалку.

— Зрабілі з вёскі нейкае гета, — працягвае Ларыса. — Да Грозаўскага сельвыканкама цяпер трэба ехаць 16 кіламетраў. Немагчыма туды патрапіць. А калі і патрапіш — апрача атрымання паперкі, ніякіх спраў не вырашыш, бо сельскія выканкамы не маюць ніякай улады.

Жанчына ўзрушана гаворыць, што яна разумее тых людзей, якія пачынаюць хапаца за ружжо, паколькі іх наўпрост даводзяць да безнадзейнага становішча.

Пра сваю адрэзанасць ад цывілізацыі вяскоўцы скардзіліся карэспандэнту НЧ яшчэ месяц таму. Мы параілі ім не здавацца і пазмагацца за рамонт дарогі, дапамаглі скласці чарнавік калектыўнага звароту.

Ці ёсць якія вынікі ад іхняй скаргі?

Вяскоўцы распавялі, што накіравалі калектыўны зварот у розныя інстанцыі.

— Ужо назаўтра пасля вашага прыезду прыехалі дарожнікі і крыху залаталі дзіркі, — паведаміла Надзея Галавенка. — Толку з гэтых дзірак! Лепей бы гравію насыпалі. З Капыльскага райвыканкаму пакуль адказу няма, але прыязджалі тэлевізіёншчыкі з БТ-1, рабілі здымкі для праграмы, якую паказалі ў мінулую сераду. Таксама вёску наведалі і журналісты з СБ.

Паколькі нядаўна кіраўнік краіны гаварыў пра рамонт лакальных дарог, вяскоўцы спадзяюцца, што іх калектыўны зварот патрапіў у тэму. Але ў рэанімацыю сваёй "дарогі жыцця" верацца слаба — занадта ўсё запушчана ва ўсіх беларускіх вёсках.

Маўклівы сведка вясковага запусцення — электрычны трансфарматар. Месца вакол яго настолькі зарасло, што электрыкі могуць трапіць сюды толькі праз агарод.

# Справа прафсаюзаў: Фядыніча і Комліка праслухоўваюць па сённяшні дзень?

Мікалай ДЗЯДОК

**Падчас разгляду справы прафсаюзных лідараў усплываюць усё новыя падрабязнасці «аператыўнай працы».**

Пракурор 15 жніўня ўпэўнена зачытваў банкаўскія выпіскі на літоўскай мове, следчыя ДФР казалі, што ніякага ціску на сведак і абвінавачаных не было, а агентка КДБ Юлія Юхнавец у гэтым іх падтрымлівала. Але галоўнай неспадзяванкай пасяджэння сталі дадзеныя следства аб праслухоўцы абвінавачаных: пракурор цытаваў іх размовы за травень-ліпень 2018 года (калі справа ўжо была перададзеная ў суд). Фядыніч заявіў, што гэтыя доказы былі здабытыя з парушэннем закону, і таму не маюць доказнай сілы. Суддзя абвясціла перапынак — на цэлых тры дні.

Яшчэ большым сюрпрызам стаў візіт на гэты суд журналістаў БТ, якія пад кпіны і няўхвальныя воклічы навакольных узялі каментар па справе ў Генадзя Фядыніча.

Аб супрацы дзяржаўных органаў у гэтай рэзананснай справе, доказнай базе следства і агульных стратэгіях сілавікоў у дачыненні да незалежных грамадскіх сіл НЧ паразмаўляў з выканаўчым дырэктарам праваабарончай установы «ТаймАкт» Васілём Завадскім.

***— Вашае ўражанне ад працэсу?***

— Сёння — даволі прыкрае. Менавіта сёння, бо раней было лепш. Праяўляецца самая сутнасць нашай «праваахоўнай», так званай, сістэмы, калі элементарныя рэчы, такія, як зварот да адваката, юрыдычныя кансультацыі, расцэньваюцца абвінаваўцам як сведчанне злачынства (пракурор зачытваў размовы Фядыніча, у якіх ён дае прававыя кансультацыі і інструкцыі па зносінах са следствам, у якасці доказу віны. — НЧ). Наогул, я быў кожны дзень на працэсе, мала што прапусціў. Уражанне ў мяне такое, што прафсаюз трымаецца годна, доказаў у следства няма, прынамсі, за той перыяд, які ім інкрымінуецца. А тое, што яны назбіралі, не мае адносінаў ні да гэтага перыяду, ні да злачынства наогул.

***— На працэсе высветлілася, што Фядыніча праслухоўвалі ажно да ліпеня, і магчыма, праслухоўваюць дагэтуль. Навошта, калі, нібыта, была сабраная дастатковая колькасць доказаў для накіравання справы ў суд?***

— Следчыя таксама разумеюць (там жа ёсць разумныя людзі), што база доказаў у гэтай справе адсутнічае. Прынамсі, прамых доказаў дакладна няма. Я не юрыст, але разумею так, што спрабавалі выйсці на ўскосных доказах.

У 2015 годзе агентка КДБ сказала, што правозіла нейкія грошы — і сёння прынесла дакумент (раней яна, заўважце, яго не паказала), нібыта інструкцыю, як сябе паводзіць на судзе. Заўважу, на следстве гэты дакумент не фігураваў. І вось следства, разумеючы, што доказная база адсутнічае, спрабуе нешта захаваць на будучыню. З майго пункту, пра гэта сведчаць пытанні, якія задаюцца пракурорам: за 2015-ы, 2016-ы гады. І, наколькі ведаю, 5–6 тамоў справы пакінуты на будучыню, — выдзелены ў асобную вытворчасць.

***— Той факт, што ў гэтым ціску задзейнічана столькі структур: пракуратура, следчыя, аператыўнікі, КДБ, АМАП, які перашкаджае людзям трапіць на пасяджэнне, суд Савецкага і Ленінскага раёна — аб чым гэта кажа? Такое ўражанне, што ўся дзяржаўная машына — супраць прафсаюза. Ён такі небяспечны?***

— Па-першае, вось гэтая ўся атмасфера, якая адмыслова тут ствараецца, падтрымліваецца ва ўсёй дзяржаве. На дзяржаўным узроўні рэалізуецца палітыка: выклікаць у людзей страх. Каб нікуды не выходзілі. Баяліся выказаць уласнае меркаванне.

Што да прафсаюзаў, рэжым мэтанакіравана дзейнічае ў адным рэчышчы: імкнецца знішчыць усё незалежнае. Той, хто дзейнічае нейкім чынам незалежна, уяўляе пагрозу для гэтага рэжыму (і гэта так і ёсць), ці будуць гэта прафсаюзы, ці фермер, які сам вырашае, што яму сеяць, калі збіраць ураджай і як з грашыма абыходзіцца, ці гэта нейкая недзяржаўная арганізацыя — усе яны, на думку рэжыму, уяўляюць пагрозу для яго, і таму ўся гэтая дзяржпалітыка будуецца на прынцыпах: не дапусціць, не даць, не дазволіць, не рэгістраваць. А калі зарэгістраваўся — ажыццявіць судовы пераслед.

***— Чаму, як думаеце, суддзя пачала так часта браць перапынкі? (Да гэтага быў зроблены перапынак у 1 дзень. — НЧ.)***

— Першыя дні судовых пасяджэнняў быў заўважаны намеснік старшыні гарадскога суда. І я сам бачыў, як суддзя абвясціла перапынак, зайшла ў кабінет, і з ёй зайшоў нейкі іншы чалавек. Таму, магчыма, у гэтыя перапынкі ідзе абмеркаванне, што рабіць. Наогул, на жаль, усе, з кім я абмяркоўваў, сышліся ў думцы, што прысуд ужо ёсць. А ўвесь гэты працэс — для публікі. Ён закліканы паказаць, што нешта сапраўды разглядаецца, суд ідзе. На самай справе суддзя, я мяркую, разумны чалавек, і бачыць таксама, што доказаў няма і, па вялікім рахунку, няма на чым базаваць прысуд. Ціск на суд, безумоўна, ажыццяўляецца. Бо ўсё трэба арганізаваць: гэта і пракуратура, і АМАП, і аўтазакі, і «даглядчыкі» (нібыта цывільныя, а насамрэч садзяцца ўвечары ў адзін аўтазак з амапаўцамі). Карацей кажучы, дзяржаўная машына задзейнічаная, і яна спрабуе зрабіць так, каб гэтыя шасцярэнькі працавалі разам і гарманічна — не дазволіць збояў.

***— Вы наведалі амаль усе працэсы, бачыце абвінавачаных збоку. Ці бачыце вы, каб абвінавачаныя былі разгубленыя, дэмаралізаваныя ад гэтага ціску дзяржаўнай машыны?***

— Не, абсалютна не бачу. Я ў захапленні і ад Фядыніча, і ад Комліка. Асабліва сёння: па іх нанеслі нечаканы ўдар, але абодва трымаліся годна, устойліва — і гэта сведчыць, што праўда на іх баку.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Гульня ў хованкі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Безумоўна, самай галоснай і цікавай падзеяй гэтага тыдня быў візіт Аляксандра Рыгоравіча на Аршаншчыну. На тую Аршаншчыну, якую ён у красавіку мінулага года, падчас паслання народу і парламенту, абяцаў выцягнуць «з руінаў і попелу».**



Малюнак www.pikabu.ru

Ужо тады ўзнікла пытанне: ва ўладзе Лукашэнка 20 гадоў, чаму ж у краіне Аршаншчына — «у руінах і попеле»? Аднак даручэнне ёсць даручэнне. І яго, як звычайна, не выканалі. Як было ўсё зруйнаваным, так і засталося.

Па выніках сваёй экскурсіі Лукашэнка абураўся: «Вавка (міністра прамысловасці), Чорнага (міністра архітэктуры і будаўніцтва) неадкладна адправіць у адстаўку. Дзвігалёву і Засю (старшыня Дзяржкамваенпрама і дзяржаўны сакратар Савета бяспекі) — поўная службовая неадпаведнасць. Не паправяць да восені справу, не дакладуць мне па кожным прадпрыемстве, пойдуць туды ж. Усіх астатніх адказных і іншых я проста папярэджваю», — анансаваў Лукашэнка перастаноўкі ва ўрадзе.

Але будзем шчырымі: звыклая гульня ў «добрага цара і кепскіх баяраў». Вовк і Чорны сыдуць са сваіх пасадаў, а хто прыйдзе на іх месца? Ці ёсць адкуль Аляксандру Рыгоравічу ўзяць нармальных — ініцыятыўных, дасведчаных, працавітых чальцоў ураду? Там такіх, за рэдкім выключэннем, проста няма.

Бо што значыць «ініцыятыўны»? Ініцыятыўны — той, хто можа рызыкаваць і спрабаваць новыя падыходы. А якая можа быць ініцыятыва, калі табе той жа Лукашэнка дыктуе, што рабіць? Адкуль узяцца досведу, калі крок налева, крок направа — і ты пад пільнай увагай Дзяржкантролю? Калі ты адступіў ад «генеральнай лініі партыі» — і ўжо ў турме?

Пры гэтым, трэба ведаць не толькі тое, што рабіць, а яшчэ і тое, як гэта рабіць. Мы ўжо, як кажуць у інтэрнэтах, «стопяцьцот» разоў казалі: эканоміка змянілася, дэфіцыту няма. Зараз, перш чым ствараць сваю прадукцыю, трэба падумаць, каму яе можна прадаць. А ў нас дзейнічаюць наадварот: спачатку змарнуюць грошы, выпусцяць нікому не патрэбнае «шыла», а потым жаляцца на страты і затаваранасць складоў.

Такой была «мадэрнізацыя дрэваапрацоўкі», прадпрыемствы якой спрэс стратныя. Так адбылося з «мадэрнізацыяй цэментавай галіны»: замежны цэмент каштуе менш, чым беларускі. А «Беларусбанк» адтэрмінаваў толькі аднаму Красносельскім цэментнаму заводу плацяжы па крэдытах больш чым на 300 мільёнаў рублёў. Для параўнання: 300 мільёнаў — гэта 3/4 рэспубліканскага бюджэту на медыцынскую дапамогу насельніцтву.

Мы невядома на што амаль ужо збудавалі айчынную АЭС. У выніку кошты на электрычнасць для насельніцтва падскочаць, а Лукашэнку і зараз ніхто не дакладае, як гэтая АЭС будзе ўбудаваная ў эканоміку краіны. Я прапаную яе не запускаць, а вадзіць там экскурсіі — хоць нейкая капейчына, і кошты на электрычнасць падвышаць не давядзецца.

Проста так працуе адбудаваная адміністрацыйная сістэма кіравання эканомікай. Галоўнае тут — не вынік, а выкананне даручэнняў і загадаў кіраўніцтва, нават вышэйшага кіраўніцтва. А калі гэтае кіраўніцтва памылілася ці не пралічыла ўсіх наступстваў, ці проста аддала загад дзеля задавальнення ўласных амбіцый? Тады і атрымліваецца тое, што мы маем.

Паказальная ў гэтым плане прамова Лукашэнкі на Аршанскім авіярамонтным заводзе. «Уласніка ўжо тут няма. Уласнікі — вы. Усе ўласнікі, якія тут былі, яны адмовіліся самі ад гэтага завода. Таму дзейнічайце. Гэта дзяржаўнае прадпрыемства з сённяшняга дня», — сказаў ён. Нагадаем, што інвестара — украінскую «Моторсіч» — з гэтага прадпрыемства проста выкінулі.

**«Уласнікі — вы», — кажа Лукашэнка. Сур'ёзна? Можа быць, акцыі прадпрыемства былі перададзеныя працоўным, каб яны адчулі, што яны ўласнікі, і былі матываваныя лепш працаваць? Дык такога не адбылося**

«Уласнікі — вы», — кажа Лукашэнка. Сур'ёзна? Можа быць, акцыі прадпрыемства былі перададзеныя працоўным, каб яны адчулі, што яны ўласнікі, і лепей працавалі, каб атрымліваць дывідэнды? Дык такога не адбылося.

Атрымліваецца, што зараз гэты завод — на ўзроўні «ўсё навокал калгаснае, усё навокал маё». І, калі зноў «мадэрнізаваць» прадпрыемства, то гэта будзе адбывацца за бюджэтны кошт. А, паводле падлікаў мінулага года, на яго мадэрнізацыю трэба не менш як 60 мільёнаў долараў. Зноў усё будзе закрываць «Беларусбанк»?

На нарадзе Лукашэнка нечакана згадаў справу лекараў, раскрытыкаваўшы былога міністра аховы здароўя, а зараз віцэ-прэм'ера Васіля Жарко. «Чаму не прыйшлі да мяне, не сказалі? Чаму ў вас карупцыянер на карупцыянеры сядзіць і карупцыянерам паганяе, а тут вы не паспелі. У Гомелі вы не паспелі, тут вы не паспелі. Вы мне будзеце распавядаць пра гераізм? Прэзідэнт паставіў публічна перад народам жалезабетонна задачу. Вырашыць — і кропка. А вы заняліся сабатажам», — заявіў Лукашэнка.

Па-першае, здзіўляе тое, што да Лукашэнкі «не прыйшлі і не сказалі». Два месяцы недзяржаўная прэса на вушах стаяла ад павальных арыштаў па «справе медыкаў»! Канешне, калі чытаць толькі БелТА, то нічога падобнага і не даведаешся. Спроба «падвесіць» на крымінальную справу Tut.by і БелаПАН шкодзіць, як высвятляецца, найперш уладзе — за адсутнасцю аб'ектыўнай інфармацыі прымаюцца і хібныя рашэнні. А інфармацыя даходзіць са спазненнем.

Па-другое, наконт «заняліся сабатажам». Мы таксама сто разоў пісалі, што ўрад гэтым займаецца ўжо даўно. Бо некаторыя даручэнні Лукашэнкі выканаць немагчыма, а некаторыя супярэчаць логіцы развіцця сістэмы. Узяць той жа Аршанскі авіярамонтны: ён не можа нармальна працаваць, і нармальна працаваць не будзе. Таму што ніводнае прадпрыемства не будзе паспяховым, калі «ўсё навокал калгаснае», а працоўны ніяк не зацікаўлены ў выніках сваёй працы. Каб была зацікаўленасць — патрэбны інвестар. Нармальны ўласнік, хай гэта будзе і калектыў заводу. Але ўласніку не загадаеш, што выраблядзь і калі мадэрнізавацца, а значыць, «кіруючая роля Лукашэнкі» зведзеная на нуль, і ў яго няма ўлады.

А калі няма ўлады — гэта самы страшны сон Аляксандра Рыгоравіча.

Так што, каб эканоміка пачала працаваць, трэба змяняць сістэму гаспадаркі. І ў такой сістэме гаспадаркі месца «кіроўнай сіле» не прадугледжана. Таму чыноўнікі і надалей будуць «займацца сабатажам», Лукашэнка — гуляць у «добрага цара», а «прыгонныя людзі — працаваць за 200 долараў на месяц».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Андрэй Павук

**Знакаміты блогер выкрыў усю айчынную судовую сістэму праз нядбайнасць пракурора.**

Сябар БАЖ блогер Андрэй Павук дамагаўся права прысутнічаць на планёрках Кастрычніцкага райвыканкама. Райвыканкам яму адмовіў — і Павук вырашыў звярнуцца ў суд.

Падчас перапынку ў судовым пасяджэнні памочнік пракурора, сыходзячы, згубіў паперу. Павук пацікавіўся, што было ў тым лісце, і са здзіўленнем прачытаў у ім: «Выслухаўшы тлумачэнні і довады бакоў, даследаваўшы пісьмовыя доказы па справе, суд лічыць, што скарга Павука А.В. не падлягае задавальненню па наступных абставінах…»

На момант гэтага перапынку суд яшчэ не выслухоўваў тлумачэнні і довады, адзначыў Павук на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку». Апроч таго, невядома, якім чынам «чарнавік» ці сапраўднае судовае рашэнне апынулася ў памочніка пракурора — аднаго з бакоў у судовай справе.



## Кірыл Руды

**Пасол Беларусі ў Кітаі ў інтэрв'ю Tut.by замахнуўся на святое — на нашу IT-краіну.**

«Паводле ацэнак Ernst&Young, у Беларусі 85 тысяч чалавек занятыя ў ІКТ (інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогіях), у тым ліку 35 тысяч — у IT. Усяго ў нас 4,5 мільёна занятых. Адпаведна, ІКТ стварае ў Беларусі толькі 1,8% працоўных месцаў. Доля ІКТ у агульным аб'ёме нашага экспарту тавараў і паслуг у 2016 годзе была 3,9%. Па падатках — льготы. Таму ІКТ-сфера, вядома, модная і прывабная, але сінергіі і імпульсу нашай эканоміцы пакуль не дае», — зазначыў ён.

Што ж да рэформаў беларускай эканомікі, то Руды зазначыў: беларускія дзяржаўныя органы рэгулярна звяртаюцца да кітайскага досведу рэформ дзяржаўных прадпрыемстваў. Кітайскія эксперты прыязджалі да нас, нашы дзяржаўныя служачыя пастаянна навучаюцца ў Кітаі. Разуменне, што «трэба рабіць», і веды, «як» рабіць — ёсць. Пакуль не падышлі да пункта «калі рабіць».

Наконт кітайскага досведу барацьбы з карупцыяй Руды распавёў, што ў 2013 годзе ў Кітаі арыштавалі кіраўнікоў практычна ўсіх правінцый і буйных дзяржаўных прадпрыемстваў. «Сацыяльны капітал» дэвальваваўся, што прывяло ўпершыню да адтоку грошай з краіны і пераходу курсу юаня з рэвальвацыі ў дэвальвацыю. Аднак досвед Кітая — не толькі ва ўзмацненні жорсткасці правіл, але і ў большай празрыстасці работы дзяржаўных органаў.

Руды адначасова прыгадаў словы выконваючага абавязкі прэм'ер-міністра Сінгапура, што ў Беларусі сёння лепшыя стартавыя ўмовы для эканамічнага рыўка, чым былі калісьці ў Сінгапура, таму што ў яго пакаленні толькі 2% былі адукаванымі.

## Вікторыя Азаранка



**Самая знакамітая беларуская тэнісістка знаходзіцца не ў лепшым псіхалагічным стане. І яна не пабаялася ў гэтым прызнацца.**

«Цяпер мне трохі цяжка знаходзіць радасць на корце, таму што ў мяне яшчэ працягваецца цяжкі перыяд. Асабіста мне гульня не прыносіць асаблівага задавальнення. Нават не ведаю. Я шчыра не ведаю, што адбываецца», — зазначыла Азаранка.

«Лёгка сказаць: «Яны спартсменкі, яны моцныя, ім трэба сканцэнтравацца». Але ў нас ёсць пачуцці, часам іх раняць, часам ты не ўпэўненая ў сабе, адчуваеш розныя эмоцыі. І мне здаецца, што моцныя людзі прызнаюць наяўнасць гэтых пачуццяў і разбіраюцца з імі, а слабыя — здаюцца і імкнуцца іх ігнараваць. Цяпер з-за сацсетак падаецца, што ва ўсіх ідэальнае жыццё, і ты глядзіш на сваё — і адчуваеш сябе так брудна… Але ў рэальнасці ўсё не так, і мне здаецца, што цяпер занадта шмат фальшывага шчасця, людзі прыкідваюцца, што ўсё выдатна», — рэфлексуе тэнісістка.

«Па-мойму, вельмі важна дзяліцца і іншымі пачуццямі… Гульцам важна выказваць гэтыя пачуцці і спадзявацца, што цябе не будуць асуджаць. Але я не думаю, што гэта адбудзецца. Трэба проста працягваць змагацца», — прыводзіць словы Азаранкі sports.ru.



Фота www.mintpressnews.com

77%

**беларусаў ставяцца да Еўрасаюза станоўча ці нейтральна. Але кідаецца ў вочы трэнд: трохразовае павелічэнне колькасці праціўнікаў ЕС**

# Ці прыйшла Еўропа ў Беларусь?



Мікалай ДЗЯДОК

**Станоўча ці нейтральна ставяцца да Еўрасаюза 77 працэнтаў беларусаў. Пра гэта кажа даследаванне праекту «EU Neighbours East». Але любыя лічбы, датычныя грамадскага меркавання, дастаткова раскрываюць свой сэнс толькі ў параўнанні — з іншымі перыядамі, краінамі, сацыяльнымі групамі.**



Малюнак www.pikabu.ru

**Магчыма, павелічэнне варожасці беларусаў да ЕС за апошнія гады — кумулятыўны эфект расійскай прапаганды, якая прадстаўляе ЕС амаль выключна ў негатыўным кантэксце. Гэты эфект назапашваўся з года ў год і ўрэшце даў свой вынік**

## Лічбы

На сайце праекта «EU Neighbours East» прадстаўленыя дадзеныя наконт стаўлення людзей да Еўрасаюза і Еўразійскага саюза за 2016–2017 гады. Яны паказваюць даволі цікавыя зрухі.

У 2016 годзе 46% беларусаў мелі нейтральнае стаўленне да ЕС. У 2017-м працэнт падрос да 53%. У 2018-м істотна знізіўся — да 43%.

У 2016 годзе 37% беларусаў ставіліся да ЕС станоўча, у 2017-м лічба нязначна знізілася — да 35%. У 2018-м знізілася яшчэ трошкі — да 34%.

На 2016 год адмоўна да ЕС ставіліся 13% беларусаў. У 2017-м — усяго 6% (ледзь не на мяжы статыстычнай памылкі). Аднак ужо ў 2018-м лічба паднялася ў тры (!) разы ў параўнанні з мінулым годам — да 18%.

Еўрапейскаму саюзу як структуры ў 2016 годзе давяралі 50% беларусаў. У 2017-м — 52%. У 2018-м лічба прасела на пяць працэнтаў — да 47%.

Еўразійскі саюз у 2016 годзе выклікаў давер у 57% апытаных. У 2017-м — ужо ў 46%, у 2018-м — амаль столькі ж, 47%.

Навіну з дадзенымі ад «EU Neighbours East» большасць беларускіх СМІ падалі ў даволі аптымістычным ключы: маўляў, беларусы збольшага пазітыўна ставяцца да Еўрасаюза, прынамсі, без выразнага негатыву.

Аднак калі мы разгледзім лічбы ў развіцці і ў параўнанні з іншымі паказчыкамі, то малюнак выглядае не такім аптымістычным.

## Трэнды

Болей за ўсё кідаюцца ў вочы два галоўных трэнды: трохразовае (у параўнанні з 2017 годам) павелічэнне колькасці праціўнікаў ЕС, а таксама зніжэнне даверу да Еўразійскага саюза на 10%.

Першае ж пытанне, якое ўзнікае пасля азнаямлення з любымі сацыялагічнымі аглядамі: чаму ў людзей змянілася думка? Уласна кажучы, змяніцца грамадскае меркаванне можа пад уплывам толькі двух аспектаў: аб'ектыўных сацыяльна-эканамічных і палітычных фактараў (беспрацоўе, вайна, голад, рэвалюцыя, акупацыя і гэтак далей) і працы медыя. Прасцей кажучы, погляды людзей змяняе альбо навакольная рэчаіснасць, альбо рэпрэзентацыя рэчаіснасці, якую ствараюць СМІ.

За апошнія тры гады ў адносінах Беларусі з Еўразійскім і Еўрапейскім саюзамі не адбылося нічога да такой ступені лёсавызначальнага, каб наўпрост змяніць меркаванне беларусаў. У нас не ўвялі еўра, ЕЦБ не навязваў нам меры жорсткай эканоміі, а сяброўства ў ЕАЭС не пераўтварыла нашу краіну ў Эміраты. Таму, верагодна, усе (ці, прынамсі, большасць) змены ў грамадскай думцы наконт гэтых пытанняў былі прадыктаваныя медыямі.

І тут, асабліва ў звязку з іншымі лічбамі апытання, выразна вымалёўваецца метатрэнд: палярызацыя.

## Палярызацыя: чыіх рук справа?

Колькасць людзей, якія нейтральна ставяцца да ЕС, з 2017 па 2018 год панізілася на 10% — і, як бачым, гэтыя «нейтралы» перайшлі пераважна ў стан праціўнікаў ЕС, якіх апынулася, як ужо казалася, утрая болей. Затое і колькасць прыхільнікаў Еўразійскага саюза з 2016 па 2017 панізілася на 9% і на сёння засталася амаль такой жа, як і год таму, — 47%.

У той жа час колькасць людзей, якія ставяцца да ЕС станоўча, істотна не змяняецца з года ў год. Гэта 34–37%.

Кажучы пра медыя, мы прызвычаіліся падзяляць іх у Беларусі на дзяржаўныя і недзяржаўныя. Аднак часта забываемся пра яшчэ аднаго вельмі важнага гульца: расійскія СМІ. Для вялізнай колькасці беларусаў яны застаюцца галоўнай крыніцай інфармацыі. Агульным месцам стала тое, што яны моцна выйграюць у беларускіх у якасці падачы матэрыялу, пераканаўчасці і відовішчнасці (пра змест, вядома, казаць не будзем). І складваецца ўражанне, што толькі недастатковае пакрыццё імі беларускай тэматыкі (нездарма ў нас існуе РТР-Беларусь, НТВ-Беларусь і гэтак далей) не дазваляе ім стаць дамінуючымі для фармавання думкі большасці беларусаў.

Таму, магчыма, павелічэнне варожасці беларусаў да ЕС за апошнія гады — кумулятыўны эфект ад расійскай прапаганды, якая прадстаўляе ЕС амаль выключна ў негатыўным кантэксце. Гэты эфект назапашваўся з года ў год і ўрэшце даў свой вынік.

У тым жа фарватары дзейнічаюць і беларускія дзяржаўныя СМІ, якія пішуць пра ЕС пераважна ў звязку з тэрактамі, агрэсіўнымі мігрантамі альбо злымі геямі, якія імкнуцца разбурыць сямейныя каштоўнасці. На пэўны сегмент аўдыторыі гэта мае сваё ўздзеянне, перавёўшы шэраг беларусаў з нейтральных пазіцый на негатыўныя.

10-працэнтнае зніжэнне даверу да Еўразійскага саюза (чытай — да Расіі) можна патлумачыць ростам папулярнасці незалежных СМІ, якія перажылі моцны пад'ём якраз у 2017 годзе, на хвалі «дармаедскіх пратэстаў». У 2017 годзе падзенне даверу склала 11% (потым ён падняўся на адзін працэнт). Усе беларусацэнтрычныя СМІ скептычна ставяцца да Расіі і яе ініцыятыў, у тым ліку эканамічных. Таму нічога дзіўнага ў тым, што вялікая частка аўдыторыі, якую яны «адхапілі» падчас стрымаў і рэпартажаў з розных гарадоў Беларусі (чаго дзяржаўныя СМІ, вядома, не рабілі) засталася з імі надоўга. І зараз гэтыя людзі фарміруюць сваё стаўленне да ЕАЭС пад уплывам незалежных сайтаў і газет.

Тут жа, дарэчы, можна сказаць і пра яшчэ адзін аб'ектыўны фактар: працяглы эканамічны крызіс у самой Расіі. Калі раней сотні тысяч беларусаў ездзілі ў Расію на заробкі, зараз гэта робіцца ўсё больш бессэнсоўным, чаго не скажаш пра закупы ва Украіне альбо Польшчы. Цалкам магчыма, што спыненне ўспрыняцця Расіі як «шчырай карміцелькі» беларуса-гастарбайтара істотна паўплывала на скептыцызм адносна Еўразійскага саюза.

## Улада: ні туды і ні сюды

Паўплываць на меркаванне беларусаў маглі і многія іншыя фактары, для вызначэння якіх патрэбныя значна больш глыбокія даследаванні і доўгі аналіз. Відавочным застаецца толькі адно: сёння, як і год, і два, і пяць гадоў таму, беларускае грамадства застаецца раздзеленым, разарваным і палярызаваным у сваіх геапалітычных сімпатыях. Яно выразна падзеленае на прарасійскую частку — відавочна большую, але інертную, і праеўрапейскую — меншую па колькасці, але больш актыўную. А таксама ёсць пэўны працэнт нейтралаў, якія вагаюцца то ў адзін, то ў другі бок. І дзесьці над усім гэтым стаіць улада, якая, здаецца, больш занятая справамі ўласнага выжывання і ўмацавання, чым магчымымі наступствамі такой палярызацыі.

# Хто ўладу не падтрымлівае — той не народ

## Гістарычныя рэфлексіі пра беларускі народ

Тацццяна ПРОЦЬКА

**У свядомым жыцці беларуса слова «народ» займае асобнае месца. «Народ» не толькі ўжываецца найбольш часта за іншыя тэрміны, калі апісваецца грамадскае жыццё, але, у залежнасці ад абставін, мае розныя значэнні, звязаныя з асаблівасцямі гістарычнага развіцця Беларусі.**

У Беларусі для апісання жыцця найбольш часта ўжываюцца некалькі вызначэнняў «беларускага народа».

Беларускі народ як асноўная маса працоўнага насельніцтва дзяржавы. Гэтае вызначэнне было галоўным у савецкія часы, такім яно з'яўляецца і сёння. Дэкрэт «пра дармаедаў», у тым ліку, быў прызначаны замацаваць у свядомасці людзей уяўленне аб беларускім народзе як народзе, што працуе на карысць беларускай дзяржавы.

У савецкія часы да народа залічалі людзей не толькі працуючых, але і падтрымліваючых дзейсную ўладу. Апошняе вельмі важна, бо канкрэтныя ўладныя кіраўнікі, накірункі дзейнасці ўлады ў кароткія гістарычныя часы змяняліся. І сёння тыя, хто ўладу не падтрымлівае, у Беларусі ў афіцыйных прамовах і па версіі дзяржаўных СМІ да народа не далучаюцца.

У савецкія часы тыя, хто ўладу не падтрымліваў, называліся «контррэвалюцыянерамі» або «антысавецкім элементам» і вынішчаліся фізічна. Зараз яны называцца «адшчапенцамі». Магчымасці для публічнай дзейнасці ў такіх людзей значна абмежаваныя, але фізічна яны застаюцца жывымі. Калі раней пісалі «народ і партыя — адзіныя», то зараз гэты лозунг, хоць і не напісаны на дахах дамоў, але паспяхова прапагандуецца дзяржаўнымі СМІ ў выглядзе «народ і Лукашэнка — адзіныя». Найбольш распаўсюджаным сёння з'яўлялася б наступнае вызначэнне: «Беларускі народ — лаяльная да ўлады працоўная частка насельніцтва».

Беларускі народ — гэта група людзей, што аб'яднаныя агульнымі прыкметамі: паходжаннем, мовай, культурай, звычаямі, гісторыяй. Нацыянальнасць — вызначэнне, якое пазначае прыналежнасць чалавека да пэўнай этнічнай супольнасці. Пры гэтым галоўны сэнс надаецца моўнай еднасці людзей. Бо мова, акрамя іншага, — найбольш зразумелая і выразная штодзённая публічная праява еднасці.

Савецкія камуністычныя ідэолагі гэта выдатна разумелі. Нацыянальныя мовы, акрамя рускай, не былі патрэбныя ў СССР, бо маглі стаць формай непадпарадкавання Маскве. У савецкія часы мовы розных народаў СССР паслядоўна выключаліся спачатку з грамадскага жыцця, потым з побытавага. Яны замяняліся рускай, якая стала асновай для фарміравання, як тады пісалі, «новай супольнасці — савецкага народа». Пастулова былі абмежаваныя і нацыянальныя культуры, нівеляваліся асаблівасці нацыянальных гісторый народаў СССР. І нацыянальныя культуры, і нацыянальныя гісторыі пастулова былі замененыя рускай культурай і гісторыяй.

Каб не выклікаць масавага абурэння, публічны акцэнт у грамадскім развіцці савецкай Беларусі рабіўся не на мову, а на культуру: развіццё культуры розных народаў на іх мовах, хоць і не вельмі ўхвалялася, але дазвалялася. Беларуская культура была прадстаўленая пераважна як побытава-сялянская. На фоне дасягненняў рускай культуры камуністычнымі ідэолагамі беларусы прадстаўляліся адсталымі сялянамі, беларускасць — «калгаснай» з'явай.

Але і тут былі вызначаныя межы дапушчальнага: культура можа быць нацыянальнай па форме, але абавязкова камуністычнай па сутнасці. Актыўнае прасоўванне «ў масы» гэтай формулы, асабліва на заходніх тэрыторыях Беларусі, выклікала своеасаблівы народны супраціў: некаторыя людзі сталі лічыць беларускасць праявай камуністычнай ідэалогіі, а беларусаў — штучным камуністычным утварэннем.

У савецкія часы азначэнне беларускага народа як нацыі лічылася буржуазна-дэмакратычным. А згодна камуністычнай дактрыне, нацыянальнае і дэмакратычнае — гэта хітры спосаб, які выкарыстоўвае мясцовая буржуазія, каб дасягнуць максімальных прыбыткаў у канкурэнцыі з буржуазіяй іншых краін. Нацыянальныя краіны — вышэйшае дасягненне толькі нацыянальнай буржуазіі, бо народу такія краіны не патрэбныя. Лічылася, што ў пралетарыяту — передавой, лепшай часткі савецкіх людзей, — наогул няма Бацькаўшчыны (так было адзначана ў Маніфесце камуністаў).

Беларусы больш за іншых у СССР сталі ахвярамі нацыянальнай стэрылізацыі. Памеры вынішчэння ўсяго нацыянальнага беларускага тлумачыліся тым, што БССР — вароты ў СССР. Любы заходні наведвальнік краіны павінен быў адразу бачыць савецкіх людзей, а не беларусаў. У БССР вопыт стварэння «новай еднасці — савецкіх людзей» быў паспяховы.

**У БССР беларускі нацыяналізм як масавая грамадская з'ява не разглядаўся. Людзей, якія лічылі беларусаў здольнымі ўтварыць сваю дэмакратычную дзяржаву, называлі «нацдэмамі» і далучалі да галоўных ворагаў савецкай улады**

Народ у свядомасці людзей меў і мае яшчэ адно важнае гістарычнае вызначэнне. Ён выкарыстоўваецца як спосаб вызначэння «сваіх», «чужых», «ворагаў» і іншых. Калі прыкметы, уласцівыя толькі дадзенаму этнасу, вызначаюцца як адзіна правільныя, найлепшыя, а іншыя разглядаюцца як другасныя, непаўнацэнныя і варожыя — такая з'ява і сёння мае асуджэнне з боку дэмакратычнай часткі чалавецтва, бо вядзе да расізму і фашызму. Праціўнікі нацыянальнага развіцця беларусаў часта выкарыстоўваюць гэты аргумент, называюць беларусаў, якія дбаюць пра развіццё беларускай мовы, культуры, фашыстамі.

У XX стагоддзі масава пачалі ўзнікаць нацыі. Узнікла паняцце нацыяналізму — ідэалогіі, галоўным прынцыпам якой з'яўляецца тэзіс пра каштоўнасць нацыі як вышэйшай формы грамадскага адзінства, яе першаснасці ў дзяржаваўтваральным працэсе.

Спачатку ў БССР беларускі нацыяналізм як масавая грамадская з'ява не разглядаўся. Людзей, якія лічылі беларусаў здольнымі ўтварыць сваю дэмакратычную дзяржаву, называлі «нацдэмамі» і далучалі да галоўных ворагаў савецкай улады. Тэрмін «нацыяналізм» стаў больш выкарыстоўвацца пасля Другой сусветнай вайны для вызначэння тых людзей, якія за межамі БССР выступалі ў падтрымку развіцця дэмакратыі, беларускай культуры і мовы. Іх называлі «буржуазнымі нацыяналістамі». У свядомасці значнай часткі беларусаў дзясяткі гадоў замацоўвалася (і замацавалася) уяўленне: тыя, хто размаўляе на беларускай мове, хоча дэмакратычных зменаў, — «чужынцы», падазроныя асобы і нават ворагі. Слова «нацыяналізм» з савецкіх часоў у свядомасці беларусаў мае рэзка адмоўнае значэнне.

Фармаванне беларускай нацыі ў савецкія часы было спыненае і замененае фармаваннем «савецкага народа». Распад СССР, у выніку якога беларусы атрымалі сваю дзяржаву, для значнай часткі насельніцтва быў шокам, фармаванне нацыі працягнулася ў складаных эканамічных умовах. А пасля вельмі хутка ўладамі Беларусі замест інтэнсіўнага нацыянальнага будаўніцтва распачаўся працэс узнаўлення СССР. Беларускае насельніцтва аказалася расколатым на прыхільнікаў умацавання беларускай дзяржаўнасці на падмурку нацыянальных каштоўнасцяў і на прыхільнікаў савецкіх каштоўнасцяў. Апошнія спачатку атрымалі падтрымку большасці насельніцтва, сфармавалі сваю «ўладу сілы», абвясцілі «нацыянальна свядомых» «адмарозкамі». Раскол і процістаянне працягваюцца да сёння.



Фота Уладзіслава Рубанава

Беларускі народ пакуль знаходзіцца ў стадыі фармавання сваёй нацыі. Працэс ідзе марудна, складана, з рознымі хібамі. Частка кіруючых і апазіцыйных элітаў маюць розныя погляды на гэты працэс, што толькі ўмацоўвае «савецкасць» беларускіх людзей. Усё гэта ўяўляе небяспеку для беларускай дзяржаўнасці. Частка кіруючых элітаў Беларусі пачынае гэта разумець. Падзеі ва Украіне ўмацоўваюць і паскараюць працэсы «разумення».

Рэспубліка Беларусь мае больш агульных рысаў з БССР, чым з дэмакратычнымі краінамі. Але паступовае ўвядзенне інстытута прыватнай уласнасці, уключэнне Беларусі ў розныя аб'яднанні дэмакратычных краінаў сусвету вымушаюць кіраўніцтва краіны глядзець на беларусаў не толькі як на працоўны лаяльны народ. Чым болей заможнымі становяцца людзі, тым больш узнікае ў іх інтарэсу да сваіх гістарычных, этнічных каранёў. Беларуская дзяржава вымушаная з гэтым лічыцца.

У слова «народ» ёсць яшчэ і гістарычна-рэлігійнае гучанне — народ як «народ Божы». Яно значна меней ужываецца ў публічнай інфармацыйнай прасторы, але мае важнае значэнне для жыцця беларусаў. Паводле дадзеных Міністэрства замежных спраў Беларусі за 2015 год, вернікамі лічаць сябе 58,9% насельніцтва краіны. З іх 82% — праваслаўныя, 12% — каталікі, 6% — прадстаўнікі іншых канфесій.

Згодна з выказваннямі іерархаў Праваслаўнай царквы, веруючых праваслаўных налічваецца 8 мільёнаў, Каталіцкай царквы — 1,4 мільёна. Пратэстанты лічаць, што іх не менш за католікаў. Калі ўлічыць, што агульная колькасць насельніцтва Беларусі 9 500 853 чалавек, то бачна, што беларускія іерархі значна перабольшваюць колькасць «народа Божага». Разам з тым уяўленне пра народ як людзей веруючых выкарыстоўваецца пры распаўсюджванні ідэй так званага «рускага міру». Акцэнт робіцца на праваслаўных верніках. Русіфікацыя часткі насельніцтва спрыяе ўмацаванню «рускага міру».

Значна часцей ужываюцца словы «просты народ». У савецкія часы афіцыйныя ідэолагі сцвярджалі, што менавіта такі народ мае ўсю паўнату ўлады ў БССР, з'яўляецца цэнтральнай дзеючай асобай палітычнага жыцця. Але галоўным у ідэалогіі было іншае: «просты народ» ніколі не памыляўся, ён быў носьбітам ісціны. Але паколькі «просты народ» сам выказаць ісціну не можа, ад яго імя гэта рабілі партыйныя камуністычныя кіраўнікі. Зараз ад імя «простага народа» гаворыць кіраўнік Беларусі. У свядомасці значнай часткі сучасных беларускіх людзей належаць да «простага народа», гаварыць ад яго імя застаецца пачэсным.

Апошнім часам у дзяржаўных СМІ стала ўжывацца вызначэнне «беларускага народа» як насельніцтва ці грамадзян Беларусі, як, напрыклад, амерыканскі народ ці расіяне. Але такое азначэнне дае магчымасць лічыцца народам і тым, хто ўладу не падтрымлівае. Таму выкарыстоўваецца яно з вялікай перасцярогай.

Трэба зазначыць, што кожны з вышэй пералічаных «народаў» мае свае каштоўнасці. «Чарка і шкварка» — для «простага народа», «мова і нацыянальная культура» — для «беларускіх нацыяналістаў», «хто не працуе, хай не есць» — для тых, хто чакае ад беларусаў толькі працы і інш.

Важнымі і цікавымі з'яўляюцца адносіны беларускага народа да ўлады і ўлады да народа. Коратка іх можна выказаць наступным чынам: беларускі народ мае малую патрэбу ва ўладзе і ў сваім жыцці імкнецца мець з ёй як мага менш стасункаў.

Людзі, якія лічаць сябе палітыкамі, у сваіх праграмах традыцыйна абапіраюцца на беларускі народ, абіраючы пры стварэнні сваіх праграм тое ці іншае вызначэнне беларускага народа. Улада мае вялікую патрэбу ў народзе, бо без народа яе існаванне пазбаўляецца сэнсу. Таму дзеючыя беларускія ўлады праводзяць дастаткова гнуткую палітыку, апелюючы раз-пораз да кожнага з вышэйзгаданых «народаў».

Але «ўлада сілы», якой, па-сутнасці, з'яўляецца беларуская ўлада, у прынцыпе не здольная задаволіць інтарэсы ўсіх гэтых «народаў», стварыць адзіны «народ». Беларусы стануць адзіным народам толькі пры дэмакратычным кіраванні.

Палітыкі, якія б сфармулявалі і зразумела выказвалі інтарэсы сучаснай беларускай нацыі, у публічнай прасторы пакуль мала заўважаныя. Але яны ёсць, іх колькасць павялічваецца. Гэтыя палітыкі сфарміраваліся як у структурах апазіцыі, так і ў нетрах улады.

# «Патрэбна змена ўлады»:

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**У апошні месяц лета 25 гадоў таму адбыліся такія падзеі, што закранулі ўсё насельніцтва Беларусі. Краіна сутыкнулася з выклікамі, якія тэрмінова трэба было вырашаць, каб давесці свае правы на існаванне ў якасці незалежнай дзяржавы.**



**Праз дэмарш Расіі з адпачынку на Нарачы тэрмінова выйшаў старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч, які неўзабаве сустрэўся з Барысам Ельцыным**

**Барыс Ельцын і Станіслаў Шушкевіч падчас сустрэчы ў жніўні 1993 года.** Крыніца: «Рэспубліка», жнівень 1993 года

## Грошы: расійскі нож у спіну

Паводле рашэння Цэнтрабанка Расіі ад 24 ліпеня 1993 года, у краіне з 26 ліпеня з абароту выводзіліся грашовыя адзінкі ўзору 1991–1992 гадоў. Такі крок Расія зрабіла ў аднабаковым парадку і афіцыйна не папярэдзіла пра гэта краіны СНД.

На тэрыторыі Беларусі ў той час разам з разліковымі білетамі ў большасці цыркулявалі савецкія грошы ўзору 1961 і 1991 гадоў (знакамітая «паўлаўская рэформа»).

Такім чынам, адзінымі плацежнымі сродкамі на тэрыторыі Беларусі сталі айчынныя разліковыя білеты ўзору 1992 года («зайчыкі»), а таксама расійскія рублі ўзору 1993 года (разліковы білет стаў адзіным плацежным сродкам на тэрыторыі Беларусі паводле пастановы Вярхоўнага Савета ад 19 кастрычніка 1994 года). На 2 жніўня 1993 года жыхары Беларусі прад'явілі для абмену амаль 13 мільярдаў рублёў (абмен цягнуўся да 7 жніўня).

Аднак расійскіх рублёў, зразумела, не хапала. На 2 жніўня 1993 года ў Беларусі ў наяўнасці мелася ўсяго 86,5 мільёна грашовых білетаў банка Расіі, што паставіла пад вялікае пытанне шматлікія адпачынкі і камандзіроўкі беларусаў.

У сувязі з дзеяннямі Расіі Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада выступіла з заявай, у якой патрабавала склікаць у пачатку верасня 1993 года нечарговую сесію Вярхоўнага Савета, які павінен быў разгледзець пытанне аб увядзенні беларускай нацыянальнай валюты.

Прадстаўнік парламенцкай апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Уладзімір Заблоцкі заклікаў улады прызнаць расійскі рубель канвертуемай валютай і абавязаць беларускія прадпрыемствы прадаваць дзяржаве пэўную частку расійскіх рублёў, атрыманых ад гандлю з расійскімі партнёрамі.

З 1 жніўня 1993 года Нацыянальны банк Беларусі скасаваў так званы «інвестыцыйны курс» беларускага рубля да замежных валют. Гэты курс выкарыстоўваўся ў экспартна-імпартных аперацыях, пры абслугоўванні знешніх запазычанасцяў і інвестыцыяў. Курс долара быў значна заніжаны: 500 рублёў за 1 долар.

Пры скасаванні інвестыцыйнага курса выявілася, што долар каштуе ў сярэднім 1600 беларускіх рублёў (камерцыйны банк «Комплекс» 2 жніўня 1993 года ажыццявіў аперацый па куплі-продажы амерыканскай валюты).

15 жніўня 1993 года ў Беларусі адбыліся першыя таргі на афіцыйна зарэгістраванай Беларускай валютнай біржы. Вынікі: 1 долар каштаваў ажно 3885 беларускіх рублёў. Рэзананс атрымала інтэрв'ю з маладымі пачынальнікамі беларускага бізнесу, кіраўнікамі прыватных прадпрыемстваў — Ігарам Лапцёнкам і Ігарам Турцэвічам. Яны заявілі, што біржа, створаная ўсяго чатырнаццаццю банкамі, — выключна штучнае фарміраванне ва ўмовах, калі ў краіне вельмі мала валюты і нізкі экспартны патэнцыял. На думку суразмоўцаў, такія ўмовы даюць магчымасць амаль бескантрольна маніпуляваць курсам долара. Праўда, большасць насельніцтва Беларусі даволі спакойна ўспрыняла валютную навіну, бо амерыканскі долар нават у руках не трымала.

## А ў вас у кватэры газ?

У пятніцу, 13 жніўня, у Беларусі было ўведзена аварыйнае абмежаванне на карыстанне газам. Днём раней кіраўнік расійскага «Газпрома» Рэм Вяхіраў накіраваў беларускаму ўраду тэлеграму пра істотнае скарачэнне паставак. У прыватнасці, замест сутачных 30 мільёнаў кубаметраў газа ў Беларусь паступіла ўсяго 14. Расіяне пагражалі ўвогуле спыніць падачу газа з 15 жніўня. Прычына банальная: запазычанасць у 110 мільярдаў беларускіх рублёў. Ва ўмовах дэфіцыту расійскага рубля перспектывы былі вельмі сумнеўныя. У тэрміновым парадку ў Маскву накіравалася беларуская ўрадавая дэлегацыя на чале з намеснікам старшыні Савета Міністраў Станіславам Брылём. У расійскай сталіцы таксама пабывалі першы намеснік старшыні Савета Міністраў Міхаіл Мясніковіч і намеснік Уладзімір Заламай.

Беларусь здолела знайсці 20 мільярдаў рублёў — і сутачны ліміт быў павышаны да 17 мільёнаў кубаметраў. У Беларускім канцэрне па паліве і газіфікацыі запэўнілі, што гэта дастаткова для 1 200 000 кватэр у краіне, аднак прамысловыя прадпрыемствы мусяць сутыкнуцца з цяжкасцямі.

Праз дэмарш Расіі з адпачынку на Нарачы тэрмінова выйшаў старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч, які неўзабаве сустрэўся з Барысам Ельцыным. Абодва палітыкі заўважылі, што трэба жыць па сродках, а Шушкевіч выказаў надзею на адзіную рублёвую зону і на цывілізаваны гандаль з Расіяй (старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч знаходзіўся ў адпачынку ў Крыме і вёў тэлефонныя перамовы з Віктарам Чарнамырдзіным; служба інфармацыі Саўміну рапартавала, што Кебіч і Чарнамырдзін «находят взаимопонимание»).

Газавае пытанне на пэўны час было вырашана адпаведным беларуска-расійскім пагадненнем ад 8 верасня 1993 года. Яно было ўведзена ў дзеянне заднім днём і дзейнічала з 1 ліпеня па 31 снежня 1993 года. Для Беларусі кошт 1000 кубаметраў газу за ліпень склаў 15 600 расійскіх рублёў, а за жнівень — 42 000. З 1 верасня кошт на газ для Беларусі падвышаўся штомесяц ў 1,154 разы і да канца года павінен быў скласці 80 долараў. Беларусь да 1 лістапада павінна была ліквідаваць усе запазычанасці. Беларусь таксама атрымлівала значныя прэферэнцыі праз транзіт газа па сваёй тэрыторыі.

Расія патрабавала значна больш: было падпісана пагадненне аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі на аснове расійскага рубля. Паводле пагаднення, да 1 студзеня 1994 года краіны мусілі стварыць усе ўмовы для аб'яднання. 18 лістапада 1993 года большасцю галасоў пагадненне было ратыфікавана ў Вярхоўным Савеце Беларусі.

## Прарасійскі квартэт

У сярэдзіне жніўня 1993 года чатыры дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання наведалі Маскву і сустрэліся са




**Карыкатура на Вярхоўны Савет, Савет Міністраў і Нацбанк.** Крыніца: «Советская Белоруссия», жнівень 1993 года




**Карыкатура на Станіслава Шушкевіча.** Крыніца: «Народная газета», жнівень 1993 года

# Гарачы жнівень 1993-га

старшынёй Вярхоўнага Савета Расіі Русланам Хасбулатавым і з кіраўніком расійскага Цэнтрабанка Віктарам Герашчанкам. Не выклікала сумневу, што гэты неафіцыйны візіт быў санкцыянаваны старшынёй беларускага ўрада Вячаславам Кебічам, бо трое дэпутатаў (Генадзь Казлоў, Мікалай Скарынін і Іван Трусаў) належалі да парламенцкай прасаўмінаўскай групы «Беларусь». Казлоў быў кіраўніком групы, а Скарынін — дарадцам Кебіча.

Чацвёртым дэпутатам апынуўся... Аляксандр Лукашэнка. І сёння застаецца загадкай, як сціплы дырэктар саўгаса зацёрся ў шэрагі высокапастаўленых кебічаўцаў (гэты візіт дасць глебу для тэорыі, што нібыта Лукашэнка ўвайшоў у кантакт з расійскімі спецслужбамі і быў цалкам праектам ФСБ на першых прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі ў наступным годзе).

Пасля вяртання дэпутацкі квартэт запэўніваў грамадскасць, што сустрэча з Хасбулатавым была вельмі карыснай: быццам, Расія паабяцала наяўныя грошы, газ і нафту, а таксама тэхнічныя крэдыты.

Ашалелы ад вынікаў сустрэчы дэпутат Казлоў публічна заявіў пра неабходнасць стварэння беларуска-расійскай канфедэрацыі і дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў. Неўзабаве прарасійскія сілы на Беларусі звярнуліся да Ельцына, Хасбулатава і Чарнамырдзіна з заявай пра канфедэрацыю і пачалі рыхтаваць «кангрэс народа Беларусі».

### Праціўнікам незалежнасці — не!

Казлоў, Скарынін, Трусаў і Лукашэнка былі моцна раскрытыкаваныя нацыянал-дэмакратычнымі сіламі. З артыкулам «Вашу б энергию да в мирных целях!» у «Народнай газеце» выступіў народны дэпутат, чалец парламенцкай апазіцыі БНФ Віктар Алампіеў, якія даказваў, што Расія задарма ніколі нічога не дасць, а кошты расійскіх нафты і газа ўсё роўна наблізяцца да сусветных. Алампіеў адзначыў катастрафічна цяжкую сітуацыю ў рэспубліцы, калі на аднаго яе жыхара — 500 тысяч рублёў знешняй запазычанасці. І гэта пры тым, што знешнегандлёвы абарот за 1992 год знізіўся напалову пры падзенні вытворчасці на 16%, а экспарт — на 600 мільёнаў рублёў пры наяўнасці канкурэнтаздольнай прадукцыі.

Алампіеў заклікаў чацвёрку дэпутатаў заняцца ўнутранымі праблемамі краіны, засяродзіць сваю ўвагу на кантролі за выканаўчымі структурамі, а таксама на ліквідацыі наступстваў прыроднай катастрофы. Мелася на ўвазе вялікая паводка, якая напаткала многія раёны Брэсцкай, Гомельскай і Мінскай абласцей у пачатку жніўня, бо ў другой палове ліпеня тут выпала звыш 2,5 месячнай нормы ападкаў: у зоне затаплення апынулася звыш 230 тысяч гектараў пасеваў і 9 тысяч сялянскіх гаспадарак.

16 жніўня 1993 года першы намеснік Кебіча Міхаіл Мясніковіч падпісаў пастанову, паводле якой на ліквідацыю наступстваў паводкі з рэспубліканскага бюджэту выдзялялася 6 мільярдаў рублёў: Брэсцкая і Гомельская вобласці атрымоўвалі па 2,8 мільярда рублёў, Мінская — 400 мільёнаў. Аднак грошай не хапала: Лунінецкі і Жыткавіцкі раёны нават праз сродкі масавай інфармацыі звярнуліся па дапамогу.

Сваё слова сказала і парламенцкая апазіцыя БНФ. У жніўні СМІ распаўсюдзілі заяву апазіцыі «Аб правале грашовай і фінансава-крэдытнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь», у якой ва ўсіх эканамічных бедах абвінавачваліся Савет Міністраў, Нацыянальны банк і Вярхоўны Савет. Апазіцыя рашуча асудзіла вераломную грашовую палітыку Масквы і заклікала ўвесці талер у якасці беларускай валюты.

У тым жа месяцы БНФ, БСДГ, Свабодны прафсаюз і шэраг прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў у Беларусі (татары, немцы, літоўцы, украінцы) падпісалі дамову аб захаванні грамадскага адзінства, у якой асудзілі кіраўніцтва рэспублікі за адсутнасць дэмакратычных рэформ, імкненне ў ваенна-палітычны саюз з Расіяй. Падпісанты дамовы таксама выступілі супраць запланаванага прарасійскага «кангрэса народа Беларусі».

Зянон Пазьняк у другой палове жніўня 1993 года адзначыўся вялікім артыкулам у «Народнай газеце» пад назвай «Патрэбна змена ўлады», у якой выступіў за датэрміновы роспуск Вярхоўнага Савета як прыстанку былой камуністычнай наменклатуры.

Дзеянні Расіі з затрымкай плацяжоў за беларускія тавары адначасова з правядзеннем вераломнай грашовай палітыкі, газавай блакадай можна, па словах лідара БНФ, характарызаваць як палітыку варожай дзяржавы, якая знаходзіцца ў стане вайны з Беларуссю.


У 1993 годзе «зайчыкі» сталі адзінай дзяржвалютай у Беларусі. Крыніца: 90s.by

**Дзеянні Расіі з затрымкай плацяжоў за беларускія тавары адначасова з правядзеннем грашовай палітыкі, газавай блакадай можна было, па словах лідара БНФ, характарызаваць як палітыку варожай дзяржавы**



Валютчыкі, 1993 год. Першы аўкцыён па продажы дзяржаб'ектаў у Брэсце, 1993 год. Крыніца: 90s.by



На першым адкрытым аўкцыёне па продажы дзяржаўных аб'ектаў у прыватную ўласнасць (Брэст)

### Першы тэрарыстычны

Пра напружаную абстаноўку ў краіне ў той час сведчыць фактычна першы тэракт у гісторыі незалежнай Беларусі. 12 жніўня 1993 года ў 22 гадзіны 25 хвілін на сталічнай плошчы Незалежнасці адбыўся моцны выбух: на бліжэйшай станцыі метро вылецела шкло. Па шчаслівай выпадковасці, ніхто не пацярпеў.

Плёткі разнесліся імгненна. Казалі, што ўзарваўся снарад рэактыўнага мінамёта «Чмель», што акцыю ажыццявілі прадстаўнікі Беларускага згуртавання вайскоўцаў і гэтак далей.

На расследаванне справы былі кінуты лепшы праваахоўныя сілы на чале з кіраўніком следчага камітэта МУС Юрыем Захаранкам. Неўзабаве прэс-служба МУС паведаміла, што злачынцы скарысталі рэчыва, якое ўжывалася ў абароннай прамысловасці ў канцы 1930-х гадоў (металічных аскепкаў знойдзена не было).

Выканаўца выбуху ўсё ж знайшоўся. 18 жніўня на тэлефон міліцыі 02 паступіў званок. Чалавек назваўся Мжыславам Мажайскім і заявіў, што бярэ на сябе адказнасць за тэракт. Мажайскі таксама заявіў, што з'яўляецца прадстаўніком Партыі справядлівасці, якая змагаецца за адраджэнне СССР. Ён запэўніў, што падобныя акацыі будуць ажыццяўляцца ў будучым у розных гарадах, пакуль кіраўніцтва Беларусі не возьме курс на аднаўленне СССР.

Лісты чытачоў у тыя жнівеньскія дні 1993-га ў галоўныя перыядычныя выданні краіны («Советская Белоруссия», «Народная газета», «Рэспубліка») сведчаць, што большасцю насельніцтва авалодала апатыя і нявер'е ў будучыню. Ні Савет Міністраў, ні Вярхоўны Савет не карысталіся папулярнасцю ў народзе. Як трапна заўважыў адзін з ананімных суразмоўцаў «Народнай газеты» (жыхар працоўнага інтэрната на сталічнай вуліцы Матусевіча), людзі чакаюць новага героя. Ды дзе ж яго ўзяць, пытаўся мужчына.

Аднак ён не ведаў, што герой з'явіцца вельмі хутка: Аляксандр Лукашэнка ўжо працаваў у якасці старшыні часовай камісіі Вярхоўнага Савета па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структур пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады кіравання і рыхтаваў свой палітычны трамплін.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Грузія. Дэкрыміналізацыя адкладаецца

У апошні дзень ліпеня Канстытуцыйны суд Грузіі прыняў рашэнне аб дэкрыміналізацыі марыхуаны. У вердыкце сказана, што паленне канопляў з'яўляецца выбарам і асабістай справай кожнага чалавека, і крымінальны пераслед за гэта недапушчальны. Рух «Гірчы» («Шышка»), які стаў таранам працэсу дэкрыміналізацыі лёгкіх наркотыкаў, абвясціў пра перамогу, аднак радасць была крыху заўчаснай. Каталікос — патрыярх усяе Грузіі Ілля II заявіў, што абвешчаная Канстытуцыйным судом дэкрыміналізацыя марыхуаны з'яўляецца антынацыянальным актам. Адразу пасля гэтага мітрапаліт Батумскі блаславіў паству на пачатак акцый пратэсту. З улікам таго, што больш за 60% насельніцтва Грузіі выказвае здзіўленне з нагоды рашэння вышэйшай судовай інстанцыі краіны, пытанне дэкрыміналізацыі марыхуаны канчаткова вырашаным лічыць не варта. Між тым, апазіцыя ў рашэнні Канстытуцыйнага суда «выявіла» ўплыў сям'і лідара кіруючай партыі «Грузінская мара» Бідзіны Іванішвілі. Нібыта бліжэйшыя сваякі Іванішвілі распрацавалі план рэалізацыі канопляў праз яго аптэчную сетку і чакалі толькі адмашкі ў выглядзе судовага вердыкту.

**Паводле грузінскай прэсы**

### ЗША. Раздрукуй і страляй!

Федэральны суд амерыканскага штата Вашынгтон вынес пастанову пра часовае блакаванне публікацыі інструкцый пра тое, як з дапамогай 3D-друкаркі зрабіць зброю. Адразу пасля гэтага Facebook забараніў карыстальнікам падобныя публікацыі. Відавочна, што гэтыя захады павінны спыніць моду на хатнюю вытворчасць зброі. Аднак СМІ сцвярджаюць, што рашэнне пра блакаванне запозненае. Распаўсюджванне моды на зброю, створаную з дапамогай 3D-друкаркі, так проста не спыніць. Гэта азначае, што ніводны ўрад у свеце неўзабаве не зможа больш кантраляваць распаўсюд зброі. Выклікае занепакоенасць таксама і факт, што металічныя дэтэктары не могуць вызначаць наяўнасць пластыкавай зброі. Гэта азначае непазбежны рост патэнцыйнай пагрозы тэрарызму. Але ёсць і тыя, хто лічыць, што пры цяперашніх цэнах друк зброі на 3D-прынтары — занадта дарагая цацка. «Наўрад ці хтосьці захоча выдаткаваць прыкладна тысячу долараў, каб атрымаць прыбор, які здольны стрэліць усяго адзін раз», — піша выданне Slate.com. Аўтар артыкула таксама лічыць, што апошнія забароны — гэта пазітыўны знак. Грамадства, маўляў, усведамляе праблему і спрабуе знайсці тэхналагічны і прававы адказы.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### Туркменістан. Мільён чалавек Ашхабаду

Кіраўнік адміністрацыі Ашхабада далажыў кіраўніку Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедаву, што колькасць насельніцтва сталіцы Туркменістану дасягнула аднаго мільёна чалавек. Навіна адразу выклікала каскад пытанняў. Справа ў тым, што ўлады доўга імкнуліся зрабіць з туркменскай сталіцы горад-сад. Напрыклад, пры Туркменбашы ўвесь цэнтр горада, уключаючы тэлефонныя будкі, упрыгожвалі мармурам. Актыўна зносіліся жылыя кварталы. Паралельна прыток насельніцтва ў горад імкнуліся абмежаваць — прапіска іншагародніх у сталіцы была забароненая з першых гадоў незалежнасці. Прапіску адмянілі толькі пяць гадоў таму. Ці хапіла гэтых гадоў, каб насельніцтва горада вырасла прыкладна з 600 тысяч да мільёна? Магчыма, Бердымухамедаў папросту вырашыў, што Ашхабад не павінен саступаць іншым сярэднеазіяцкім сталіцам — Астане і Ташкенту, і загадаў агучыць лічбу ў мільён.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ЗША. Змова педафілаў

Не сакрэт, што сярод прыхільнікаў папуліста Дональда Трампа вельмі шмат радыкальных хрысціянскіх фундаменталістаў. Дастаткова ўзгадаць, што падчас выбараў адзін з агітатараў Трампа ў Тэхасе распавядаў, што ўсе геі ў ЗША з'явіліся паводле плана Хрушчова па развале Злучаных Штатаў. Сустракаюцца сярод прыхільнікаў Трампа і паслядоўнікі вучэння нейкага «Q». Лічыцца, што «Q» — мянушка аднаго высокапастаўленага чыноўніка Белага дома, які рэгулярна дзеліцца сваімі меркаваннямі ў сецыве. Асноўная ідэя, якую папулярызуе «Q», гучыць трохі экстравагантна. Сцвярджаецца, што істэрыка вакол рускага ўмяшання ў выбары ў ЗША — хітрая камбінацыя Трампа і пракурора Роберта Мюлера. На самай справе яны рыхтуюць матэрыялы для ўзбуджэння справы супраць міжнароднай сеткі педафілаў, куды, сярод іншых, уваходзяць Хілары Клінтан, Джордж Сорас, Барак Абама і гэтак далей. Але значна больш незвычайныя не забабоны сяброў секты «Q», а тое, што яна становіцца мэйнстрымам сярод рэспубліканцаў. Так, падчас апошніх буйных маніфестацый рэспубліканцаў іх авангард складалі менавіта аматары тэорыі змовы педафілаў. У сувязі з гэтым у прэсе непакоіцца, ці не будзе сам Трамп для стымулявання сваёй папулярнасці агучваць шызафрэнічныя канспіратыўныя тэорыі.

**Паводле амерыканскай прэсы**




Фота www.thedailybeast.com

# Парсюка ў прэзідэнты!

Алег НОВІКАЎ

**Пяцьдзясят гадоў таму за акіянам паспрабавалі высунуць на пасаду прэзідэнта ЗША звычайную свінню. Смешна? Аднак сучаснікі называлі тую падзею пачаткам Другой амерыканскай рэвалюцыі.**

Напэўна, камусьці такія ацэнкі, як «пачатак Другой амерыканскай рэвалюцыі» сёння падаюцца трошкі перабольшанымі, аднак 50 гадоў таму з гэтым, напэўна, не пагаджаліся. У 1968-м ЗША сапраўды вельмі моцна ліхаманіла. Двума гадамі раней быў забіты прэзідэнт Кенэдзі, што выклікала крызіс у палітычнай эліце. Забойства змагара за грамадзянскія правы Марціна Лютэра Кінга радыкалізавала рух афраамерыканцаў. Мільёны людзей выходзілі на вуліцы, патрабуючы спыніць вайну ва В'етнаме. Не дзіўна, што шматлікія абывацелі ўсур'ёз думалі пра хуткі фінал палітычнай мадэлі, якую калісьці заклалі бацькі-заснавальнікі Злучаных Штатаў.

Аднак самае пекла было яшчэ наперадзе. Напрыканцы жніўня 1968-га ў Чыкага павінен быў адбыцца партыйны канвент дэмакратаў, дэлегаты якога збіраліся абраць кандыдата ў прэзідэнты. Падзея прыцягнула ўвагу антываенных актывістаў, паколькі менавіта адміністрацыя дэмакратаў лічылася адказнай за вайсковую эскалацыю ва В'етнаме. Была абвешчаная нацыянальная мабілізацыя для акцый у Чыкага. Не прайшлі міма канвента і анархісцкія фракцыі субкультурнага руху хіпі, якія напрыканцы 1967-га аформіліся ў асобную групоўку — Моладзевая міжнародная партыя (Yippies). Дзякуючы перформансам накшталт захопу біржы ў Нью-Ёрку Yippies зрабілі сябе добрае пабліцыці.

Прыблізна ўвесну 1968-га ў кіраўніцтве Yippies паўстала ідэя высунуць у прэзідэнты звычайную свінню. Хаця першапачаткова кандыдатам бачылі «смуроднага і агіднага парсюка вагай у 200 кілаграм», у выніку выбар быў зроблены на карысць дастаткова маладога 60-кілаграмовага парсючка. Яго прадаў радыкалам адзін фермер. Свінню ахрысцілі «Пігасусам», што было гульнёй слоў «pig» (свіння) і «Pegasus» (Пегас, крылаты конь у антычнай міфалогіі).

Намінаваць парсюка ў прэзідэнты планавалася напярэдадні адкрыцця канвенту. Пасля намінацыі Yippies хацелі патрабаваць ад уладаў, каб Пігасус разглядаўся ў якасці законнага кандыдата. Гэта значыць, каб яму была дадзена дзяржаўная ахова і магчымасць праводзіць знешнепалітычныя брыфінгі ў Белым доме. Дарэчы, на той час стала вядомая і прэтэндэнтка ў першыя лэдзі — сімпатычная сяброўка Пігасуса па мянушцы Пігі-Уігі.

Акрамя намінацыі свінні Yippies вырашылі не даць дэмакратам абраць свайго кандыдата. Сарваць дэмакратычны канвент меркавалася за кошт цэлай серыі акцый: ад прапановы кідаць цвікі з эстакад на дарогу, каб перашкаджаць руху аўтамабіляў, да ідэі запусціць наркотык ЛСД у гарадскі водаправод. На самай справе, такія публічныя заклікі былі часткай піяр-кампаніі для прыцягнення інтарэсу да праекту Yippies.

Аднак ані гарадскія ўлады, ані Белы дом пра гэта не ведалі. Таму напярэдадні з'езду дэмакратаў Чыкага нагадваў сапраўдную крэпасць у аблозе. Акрамя 12 тысяч мясцовых паліцэйскіх, парадак ахоўвалі 7500 жаўнераў і 6000 нацыянальных гвардзейцаў.

Нягледзячы на хеўру сілавікоў, Yippies удалося даставіць свінню-кандыдата ў адзін з цэнтральных паркаў, дзе пачалася цырымонія намінацыі. Але перш чым кандыдат паспеў зарохкаць («сказаць прамову»), семярых актывістаў затрымалі і пагрузілі ў паліцэйскі аўтазак. Разам з імі туды закінулі і Пігасуса. А вось кандыдатка ў першыя лэдзі так лёгка сябе затрымаць не дала. Шэсць (!) копаў пад смех прысутных доўга ганяліся за Пігі-Уігі па парку.

Арышт парсюка стаў уверцюрай да моцных вулічных беспарадкаў, якія цягнуліся ўвесь наступны тыдзень. На працягу тыдня, у які праходзіў з'езд Дэмакратычнай партыі, з траўмамі ў бальніцы Чыкага былі шпіталізаваныя 101 чалавек. Бітва ў Чыкага вельмі моцна паўплывала на эліту, якая зразумела, што з в'етнамскай авантурай трэба неяк заканчваць.

Што тычыцца героя сюжэту, то яго далейшы лёс дасюль дакладна невядомы. Некаторыя лічаць, што кандыдата ў прэзідэнты з'еў афіцэр паліцыі. А вось «Chicago Tribune» пісала, што пасля ўзяцця пад варту паліцыяй Пігасуса трымалі ў пастарунку. Пасля кандыдата перадалі Таварыству супраць жорсткага абыходжання з жывёламі. Яны выпусцілі парсюка на сваю ферму.

Аднак гэта быў яшчэ не фінал. Хутка лідараў Yippies выклікалі ў высокі суд, дзе ім былі выстаўленыя абвінавачванні ў антыграмадскіх паводзінах, парушэнні грамадскага парадку і перавозе свінні ў Чыкага. Суд ператварыўся ў цырк-шапіто, паколькі абвінавачаныя давалі паказанні пра сур'ёзнасць сваіх намераў правесці выбарчую кампанію Пігасуса. Нягледзячы на ўсю камічнасць імпрэзы, працэс асвятлялі вядучыя СМІ краіны. Менавіта тады і была агучана думка, што ў Амерыцы пачалася другая рэвалюцыя. З улікам таго, якую трансфармацыю перажыла краіна ў 1960–1970-я гады, магчыма, аўтар тэзісу мае рацыю.

Напрыканцы — нечаканы аспект гісторыі. Як пазней прызнаўся Джэры Рубін, адзін з лідараў Yippies, «мы прайшлі з Пігасусам немалы адрэзак жыццёвага шляху, у тым ліку арышт і ўціск грамадзянскіх правоў, і палюбілі яго як свайго». Па слядах кампаніі Yippies заклікалі аднадумцаў-радыкалаў не ўжываць слова «свіння» як сінонім паліцэйскага, паколькі «гэта абразліва для жывёл».

# Анатоль Грыцэнка — кіраўнік Украіны?

Алег НОВІКАЎ

**Адным з фаварытаў прэзідэнцкай кампаніі ва Украіне нечакана стаў малавядомы беларусам Анатоль Грыцэнка. Разабрацца, хто такі «Грышч» (так празвалі Грыцэнку простыя ўкраінцы) «Новаму Часу» дапамог кіеўскі журналіст Юрый Палянін.**



Фота www.prportal.com.ua

***— Прыкладна з пачатку лета другое месца ў рэйтынгах кандыдатаў у прэзідэнты стабільна займае Анатоль Грыцэнка. Хто ён такі, і дзе крыніцы яго шалёнай папулярнасці?***

— Анатоль Грыцэнка — былы прафесійны вайсковец, які сышоў у запас у чыне палкоўніка. На палітычную сцэну ён выйшаў у 2004-м, калі ўвайшоў у выбарчы штаб Юшчанкі. Пасля ўзначальваў Міністэрства абароны, у тым ліку і ва ўрадзе Януковіча. Прыкладна з 2009-га Грыцэнка спрабуе працаваць аўтаномна пад сцягам створанай ім партыі «Грамадзянская пазіцыя». Нейкімі поспехамі былы вайсковец пахваліцца не можа, хаця ў інфармацыйнай прасторы ён быў заўсёды.

Сапраўды, паводле апытанняў, Грыцэнка стабільна ўтрымлівае другое месца з прыкладна 7–9 працэнтамі. Што да крыніц «грыцэнкаманіі» — яны відавочныя. Цікавасць да палкоўніка паўстала па ходзе таго, як частка прыхільнікаў Майдана расчаравалася ў Парашэнку, Яцанюку і іншых палітыках, якія прыйшлі да ўлады ў 2014 годзе. Грыцэнка абяцае выправіць памылкі цяперашняй улады, і нават пасадзіць Парашэнку, захаваўшы пры гэтым стратэгічны курс на Захад.

***— Кажуць, што ў мінулыя гады Грыцэнка паміж выбарамі таксама меў добрыя рэйтынгі, аднак на выніках галасавання заўсёды прайграваў.***

— Прычына папярэдніх няўдач Грыцэнкі — у адсутнасці рэальных мясцовых структур. То бок, патрэбны актыў, які здольны займацца агітацыяй, мабілізацыяй і не даць канкурэнтам скрасці галасы ў момант падліку. Невыпадкова брэнд «Грамадзянская пазіцыя» абсалютна не вядомы ў глыбінцы, і нават часцяком не асацыюецца з самім Грыцэнкам. У прынцыпе, ёсць меркаванне, што адбудоўваць «машынку» (так называюць партструктуры на жаргоне кіеўскіх палітычных тэхнолагаў) не хоча сам палкоўнік. Уся яго стратэгія пабудаваная на вобразе добрага хлопца. Гэты вобраз ён і спрабуе прадаць выбаршчыку. Такі падыход шмат каго непакоіць. Ва Украіне ўжо быў палітык, які перамог на выбарах з брэндам добрага хлопца. Гэта Віктар Юшчанка, вынікі прэзідэнцкай кадэнцыі якога вельмі сумнеўныя.

***— У інтэрнэце пішуць, што ў выбарчую кампанію Грыцэнкі, нібыта, вырашыў інвеставаць асабіста Джордж Сорас.***

— Гэта ўсяго толькі чуткі, хаця нельга не адзначыць, што вакол Грыцэнкі апошнім часам пачалася валтузня мікрапартый, актывістаў і арганізацый, якія былі звязаныя з рэсурснымі цэнтрамі Сораса.

***— Як Грыцэнка збіраецца вырашаць праблему Данбаса?***

— Прапанаваны Грыцэнкам так званы «план дэакупацыі» заснаваны на ідэі, што Захад хутка дацісне Пуціна. У выніку Крэмль пагодзіцца на паэтапнае разгортванне ў Данбасе міратворчага кантынгенту. Пасля цягам 3–5 гадоў будуць падрыхтаваныя ўмовы для вяртання рэгіёну ў склад Украіны. Эксперты, дарэчы, скептычна ацэньваюць такі план. Ён мае шанец на рэалізацыю толькі калі Расія цалкам забудзецца на Данбас, што малаверагодна. Яшчэ больш гэта малаверагодна, калі ўкраінскім гарантам будзе Грыцэнка, на якога ў Расіі распачата крымінальная справа — неяк у эфіры Грыцэнка прапанаваў забіць Пуціна, а пазней заклікаў да дыверсіяў на тэрыторыі Расіі.

**Ёсць меркаванне, што адбудоўваць партструктуры не хоча сам палкоўнік. Уся яго стратэгія пабудаваная на вобразе добрага хлопца. Гэты вобраз ён і спрабуе прадаць выбаршчыку. Такі падыход шмат каго непакоіць. Ва Украіне ўжо быў палітык, які перамог на выбарах з брэндам добрага хлопца. Гэта Віктар Юшчанка, вынікі прэзідэнцкай кадэнцыі якога вельмі сумнеўныя**

***— Якія ж выбары ва Украіне без «чорнага піяру»? Ці ёсць у Грыцэнкі шкілеты ў шафе?***

— Як правіла, яму згадваюць кіраўніцтва Мінабароны. Кажуць, што тады распродаж ваеннай маёмасці «налева» пабіў усе рэкорды. У тым ліку з-за гэтага ў 2014 годзе ўкраінская армія, нібыта, не змагла адэкватна рэагаваць на падзеі ў Крыме і Данбасе. Але, калі гэта нават праўда, не факт, што кампрамат спрацуе. Колькі грошай было ўкладзена ў стварэнне Алегу Ляшко іміджу гомасексуаліста, але ён усё адно застаецца палітычным цяжкавагавіком. Прычым, электаральны бастыён яго «Радыкальнай партыі» — у райцэнтрах і на вёсцы. А там гамафобія — папросту павальная з'ява.

***— На ўкраінскім тэлебачанні папулярны жарт: наступныя выбары ва Украіне абавязкова выйграе Юля. Фішка ў тым, што Юлія Цімашэнка выступае галоўным апанентам Грыцэнкі. А той, у сваю чаргу, жанаты з Юліяй Маставой, рэдактаркай уплывовага штотыднёвіка «Дзеркало Тижня». Ці можа Юлія Мастава ў выпадку перамогі Грыцэнкі стаць «шэрым кардыналам» прэзідэнцкай адміністрацыі?***

— Мастава вядомая як жанчына з моцным і валявым характарам, аднак ёй хопіць розуму, каб не паўтарыць памылак Раісы Гарбачовай. Тут, хутчэй, трэба адзначыць, што «Дзеркало Тижня» на працягу ўсёй сваёй гісторыі падтрымлівала праамерыканскую лінію. Можна падазраваць, што Мастава мае каналы выхаду на амерыканскую эліту. Таму ў выпадку перамогі Грыцэнкі амерыканскі фактар ва ўкраінскай палітыцы ўзмоцніцца — у параўнанні з тым жа з еўрапейскім. Аднак для гэтага Грыцэнку трэба выйграць выбары. І хоць цяпер ён каціруецца высока, усё можа змяніцца ў любы момант.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Роберт Хабек



Сустаршыня нямецкай партыі «Зялёныя» і яе асноўны спікер і яго партыя ў пазітыўным сэнсе сталі закладнікамі анамальнай спякоты ў Еўропе. Чым вышэй градус паветра, тым больш немцаў сімпатызуюць «Зялёным», якія даўно кажуць пра пагрозы змены клімату.

Як вынік — рэйтынг экалагаў хутка расце. За пару апошніх тыдняў колькасць іх прыхільнікаў вырасла амаль на 4 працэнты. Калі б выбары ў Бундэстаг праходзілі сёння, «Зялёныя» маглі б разлічваць на 15 працэнтаў (на апошніх выбарах партыя атрымала толькі 8 працэнтаў). Палітолагі таксама звяртаюць увагу на тое, што адначасова скарачаецца падтрымка сацыял-дэмакратаў. Цяпер эсдэкі балансуюць на мяжы 18 працэнтаў. У сувязі з гэтым аднавіліся размовы пра тое, што «Зялёныя», а не сацыял-дэмакраты ў перспектыве могуць стаць асноўным канкурэнтам кансерватараў Ангелы Меркель.

Палітолагі не выключаюць рымейка так званага «феномена Фукусімы». Пасля аварыі на АЭС у Японіі ў 2011 годзе на хвалі страху немцаў перад «мірным атамам» папулярнасць «Зялёных» таксама была завоблачнай, але з часам гэта тэма бюргерам надакучыла. Яны пераключыліся на больш актуальныя праблемы — і, адпаведна, змянілі палітычныя прыхільнасці. Паглядзім, як будзе гэтым разам.

### Рустэм Хамітаў



Кіраўнік Башкірыі выступіў за стварэнне башкірскай кулінарнай аўтаноміі.

Падчас візіту на Буздзякскі кансервавы завод, прадукцыя якога разыходзіцца далёка за межамі рэспублікі, Хамітаў ледзь не запатрабаваў стварыць «башкірскі» соус, калі «раптам» заўважыў, што ў лінейцы прадукцыі прадпрыемства маецца і кетчуп «Татарскі». Свой загад ён матываваў тым, што «татарскі соус» у Башкірыі — гэта «непатрыятычненька».

Рэпліка пра стварэнне башкірскага соусу выклікала сапраўдны гвалт у расійскіх сацсетках. Безумоўна, «каштоўныя ўказанні» Хамітава — гэта адкрытае ўмяшанне ў працу камерцыйнага прадпрыемства. Акрамя таго, кіраўнік Башкірыі, здаецца, не ведае, што рэцэптура кетчупу «Татарскі» з'явілася даўно, і актыўна выкарыстоўваецца многімі вытворцамі па ўсёй краіне. Гэта такая ж вядомая марка, як «башкірскі мёд». Нарэшце, вытворчасць у Башкірыі кетчупу «Татарскі» лагічная: значная частка насельніцтва рэспублікі — этнічныя татары. Так што тут патрыятызм самы сапраўдны, шчыры, без казённых істэрык.

У любым выпадку, наўрад ці Хамітаў прыпыніць змаганне за «башкірскі соус» ці нешта падобнае. Адсутнасць рэальнай аўтаноміі чыноўнікам прыходзіцца кампенсаваць за кошт патрыятычных шоу.

### Маўрысіё Рохас



Экс-міністр культуры Чылі паставіў абсалютны антырэкорд па часе знаходжання на пасадзе міністра. Праз 90 гадзін пасля прызначэння чыноўнік падаў заяву «па ўласным жаданні».

Прычына — перамога чылійскай грамадзянскай супольнасці. Вядучыя прадстаўнікі чылійскай культуры — паэты, музыкі, мастакі і артысты — абвясцілі байкот усіх мерапрыемстваў з удзелам міністра і яго прадстаўнікоў. Грамадскасці не падабаюцца погляды Рохаса на палітыку памяці ахвяр дыктатуры Піначэта. У адным з інтэрв'ю той сказаў, што Музей памяці і правоў чалавека (прысвечаны памяці ахвяр дыктатуры) з'яўляецца «фальсіфікацыяй, мэта якой — выклікаць у гледача моцнае ўражанне, якое замінае разважаць».

Нягледзячы на тое, што Рохас заявіў, што «ўжо перагледзеў свае погляды і больш так не думае», байкот працягнуўся, і ў выніку скончыўся адстаўкай міністра.

Гісторыя будзе няпоўнай, калі не прыгадаць адзін эпізод з біяграфіі Рохаса. Пасля падзення дыктатуры ён распавядаў, што ў часы Піначэта быў удзельнікам узброенага падполля, пакуль лідары супраціву не абверглі яго аповеды пра партызанскія подзвігі. Гэтак жа варта адзначыць, што адстаўка Рохаса наўрад ці паўплывае на агульную палітыку рэабілітацыі дыктатуры, якую праводзяць цяперашнія чылійскія ўлады. Так, раней пачаўся працэс амністыі ваенных злачынцаў дыктатуры.

# «Новы прадукт». ТБМ у Стоўбцах

Ігар ІВАНОЎ

**Раённая арганізацыя Таварыства беларускай мовы ў Стоўбцах была заснаваная толькі 9 снежня 2016 года — з нагоды 125-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Пра перспектывы беларусізацыі ў невялікіх гарадах мы гутарым з яе кіраўніком Міхалам Міхно.**

***— Распавядзіце, калі ласка, пра асноўную сваю дзейнасць, прафесію. Калі і як вы сталі сябрам ТБМ?***

— Я ўступіў у ТБМ яшчэ ў 1990 годзе. Тады стваралася першая Стаўбцоўская раённая рада ТБМ, кіраваў ёй Генадзь Сцяпанавіч Пяткевіч, намеснікам быў мой брат Ігар Міхно, і я таксама запісаўся ў яе яшчэ пятнаццацігадовым хлопчыкам. Генадзь Сцяпанавіч — вельмі цікавы чалавек, які падлеткам перажыў ваенны час. У вайну многія юнакі станавіліся сябрамі СБМ (Саюза беларускай моладзі — моладзевай нацыяналістычнай арганізацыі, якая дзейнічала на акупаванай тэрыторыі з дазволу нямецкай адміністрацыі) добраахвотна або пад прымусам. Генадзь Сцяпанавіч быў у іх ліку. Пасля вайны яму гэта, канешне, прыпомнілі, і ён адсядзеў у лагерах. Выбітная асоба для Стаўбцоўшчыны, у першае дзесяцігоддзе пасля распаду СССР ён шмат зрабіў для станаўлення тут грамадзянскай дэмакратычнай супольнасці.

Праіснавала тая рада ТБМ да 2004 года — са смерцю Генадзя Сцяпанавіча дзейнасць яе пачала паступова затухаць. Таму наша арганізацыя ТБМ — другая па ліку ў Стоўбцах. Сам я — настаўнік гісторыі ў Залужскай сярэдняй школе, займаюся краязнаўствам, прымаў удзел у складанні кнігі «Памяць» па Стаўбцоўскім раёне.

***— Ці сутыкаліся вы з перашкодамі пры адраджэнні арганізацыі?***

— У кастрычніку 2016 года тут адбылася канферэнцыя па гісторыі Стоўбцаў. Менавіта тады намесніца старшыні ТБМ Алена Анісім, якую за месяц да таго абралі дэпутатам Нацыянальнага сходу, узняла пытанне пра стварэнне раённай арганізацыі ТБМ. Пасля гэтай канферэнцыі і быў утвораны аргкамітэт з прадстаўнікоў райвыканкама і грамадскасці. І на першым жа пасяджэнні было вырашана стварыць Стаўбцоўскую раённую арганізацыю ТБМ, а я быў прапанаваны на пасаду яе кіраўніка.

***— У чым асаблівасці, цяжкасці ці, наадварот, станоўчыя бакі ў дзейнасці суполак ТБМ у невялікіх гарадах?***

— Відавочна, праблема маладых гарадоў — у дэфіцыце працоўных месцаў, адсутнасці крыніц для самарэалізацыі, якія маладыя людзі мусяць шукаць у вялікіх гарадах. У Стоўбцах з-за невялікай адлегласці ад Мінска гэтая праблема асабліва вострая. Шанцаў зарабіць грошы, ажыццявіць нейкія іншыя мары, зацвердзіцца ў жыцці, у сталіцы несувымерна больш, чым тут. У выніку — недахоп маладых, ініцыятыўных людзей, якія патрэбныя для таго, каб арганізацыя існавала. Бо любая ініцыятыва трымаецца, перш за ўсё, на людзях. Яны — яе сэрца, галоўны рухавік.

Таму, напэўна, у складзе Стаўбцоўскай арганізацыі ТБМ багата людзей сталага ўзросту, нават пенсіянераў. Тым не менш, ёсць у суполцы і маладыя людзі, якія звязалі сваё прафесійнае і асабістае жыццё з Мінскам, але ж каго цягне на малую радзіму пяшчота да бацькоўскага дома і неабыякавасць да лёсу Стоўбцаў. Спадзяемся, паступова сярэдні ўзрост чальцоў суполкі будзе паніжацца.

Другая праблема, агульная для ўсіх сучасных гарадоў — і буйных, і малых, — у вялікай колькасці некарэннага насельніцтва, якое з кожным годам пераязджае з вёскі ў горад. Тут я маю на ўвазе не культурны антаганізм «горад—вёска», а перш за ўсё традыцыі мясцовасці, якія могуць доўгі час стала развівацца ў супольнасці, і якія хутка размываюцца, калі губляецца пераемнасць, парушаецца сувязь паміж пакаленнямі. Новыя людзі, калі прыязджаюць у горад, як правіла, мала цікавяцца яго гісторыяй.

***— Колькі людзей з'яўляюцца чальцамі суполкі ТБМ, і якая колькасць з іх актыўных?***

— На сёння ў склад суполкі ўваходзіць шаснаццаць чалавек. Актыўных — чатыры-шэсць: гэта людзі, якія прыходзяць на сходы, удзельнічаюць у мерапрыемствах, у тым ліку ў іх падрыхтоўцы. Гэта вельмі важна, арганізацыя мерапрыемства — цяжкая праца, якая патрабуе ўласнага часу людзей.

***— Ці можна казаць аб нейкай накіраванасці, характары арганізацыі: краязнаўчая або адукацыйная праца?***

— У сувязі з тым, што ў Стоўбцах няма вялікай актыўнасці сярод мясцовых жыхароў, мала грамадскіх арганізацый, наша суполка займаецца рознымі пытаннямі: не толькі распаўсюдам і прапагандай беларускай мовы, але і развіццём турыстычнага патэнцыялу ў рэгіёне. Мы падымаем пытанні пра падрыхтоўку сувенірнай прадукцыі з выявамі Стоўбцаў, якой зараз практычна няма, плануем выданне краязнаўчай літаратуры, займаемся пытаннямі аховы помнікаў гісторыі і культуры мясцовага значэння. Так ці інакш, гэтыя праблемы мы мусім падымаць.

***— Што за гэты невялікі час ужо ўдалося зрабіць?***



Падчас экскурсіі Л. Назаранка



На суботніку



На ўстаноўцы шыльды каля брукаванкі

**У Стоўбцах няма вялікай актыўнасці сярод мясцовых жыхароў, мала грамадскіх арганізацый. Таму наша суполка займаецца рознымі пытаннямі: напрыклад, развіццём турыстычнага патэнцыялу ў рэгіёне**

— Напрыклад, у нас атрымалася арганізаваць мерапрыемства да дня моладзі «Застаемся дома», якое адбылося 4 сакавіка. На ім стаўпецкая моладзь абмяркоўвала пытанні і шукала адказы на цяжкія для горада пытанні: «Чаму моладзь адсюль з'язджае і чаму застаецца?»

У пачатку сакавіка адбылася сустрэча з тэатральным і кінарэжысёрам Валерам Мазынскім у фармаце прэзентацыі ім фільма «Кастусь Каліноўскі: апошнія дні», за ёй была праведзена гутарка па розных пытаннях гісторыі і грамадска-палітычнага жыцці Беларусі.

25 сакавіка разам з супрацоўнікамі ДРБУ і калектывам Стаўбцоўскай музычнай школы ў межах рэспубліканскага суботніка была зладжана прыборка захаванага ўчастка брукаванай дарогі «Стоўбцы—Мір», якому ў жніўні 2016 года быў нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці 3-й катэгорыі.

Дзякуючы намаганням чальцоў ТБМ у красавіку нам удалося паўдзельнічаць у фэсце экскурсаводаў, цягам якога мясцовы краязнаўца Людмілай Назаранка для ўсіх жадаючых правяла цікавую экскурсію па гісторыі даваенных Стоўбцаў. Пры падтрымцы кампаніі «Будзьма беларусамі» 14 чэрвеня адбылося беспрэцэдэнтнае для раёна мерапрыемства: ток-шоу «Чым мы адметныя?», дзе ў фармаце дыскусіі абмяркоўваўся турыстычны патэнцыял Стаўбцоўшчыны, падымаліся пытанні гістарычнага і краязнаўчага характару. Папярэдне была праведзеная апытанка мясцовых жыхароў на прадмет вылучэння імі тых аб'ектаў роднага горада, якія маглі б, на іх погляд, быць цікавымі для турыстаў. Вынікі апытанкі можна было пабачыць на старонцы суполкі ў сацыяльных сетках. Спецыяльнымі гасцямі ток-шоу былі гісторык Ігар Мельнікаў і старшыня Добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч. Ток-шоу актыўна асвятлялася мясцовымі дзяржаўнымі і незалежнымі СМІ.

Чальцы ТБМ раней рабілі і працягваюць працу па прыборцы закінутых яўрэйскіх могілак, выносяць прапановы па адкрыцці краязнаўчага музея на аргкамітэце пры стаўбцоўскім райвыканкаме, ствараюць прывабны вобраз цэнтральнай плошчы праз камп'ютарную распрацоўку і нанясенне на будынках муралаў з гістарычнымі выявамі Стоўбцаў. Улічваючы акрэсленую невялікую колькасць актыўных удзельнікаў, працы зроблена нямала.

***— Ці адчуваеце вы нейкае асаблівае стаўленне да арганізацыі з боку жыхароў і гарадскіх уладаў?***

— З уладамі ў нас ёсць наладжаныя кантакты. Мы пастаянна сустракаемся, абмяркоўваем розныя пытанні з намеснікамі старшыні райвыканкама, напрыклад, на пасяджэннях аргамітэта па стварэнні музея, мерапрыемствах па ахове брукаванай дарогі. На жаль, у сувязі з цяжкай эканамічнай сітуацыяй, фінансавай падтрымкі з боку ўлады амаль няма, таму для ажыццяўлення сваіх мэтаў мы шукаем сродкі самастойна. Пры арганізацыі мерапрыемстваў, безумоўна, вельмі важным з'яўляецца данясенне інфармацыі да як мага большай колькасці жыхароў, для гэтага мы стварылі суполкі ў сацыяльных сетках, а пра нашы імпрэзы давалі інфармацыю ў раённай газеце «Прамень».

Аднак большая частка жыхароў Стоўбцаў проста не ведае пра існаванне арганізацыі. І гэтую праблему мы мусім вырашаць настолькі, наколькі таго будуць патрабаваць абставіны, у тым ліку запатрабаванасць і паспяховасць нашых ініцыятыў.

Калі я развітаўся са спадаром Міхно, падумаў, што сітуацыя з ТБМ у малым горадзе ў нечым нагадвае канкурэнтную барацьбу на рынку. Яны мусяць прапанаваць прадукт — безумоўна новы, незразумелы для большасці, нязвыклы, але цікавы і прывабны. З апошнімі дзвюма акалічнасцямі сітуацыя складаная, бо па гэтых характарыстыках ініцыятывы ТБМ мусяць паспрачацца з нешматлікімі піцейна-забаўляльнымі кропкамі, якія складаюць у малых мястэчках 70% з прапанаваных спосабаў баўлення часу.










# Уладзімір Караткевіч на паштоўках і канвертах

Сяргей ЧЫГРЫН

**Уладзімір Караткевіч — без сумневаў, пісьменнік сусветнага маштабу. Ён не толькі з'яўляецца пачынальнікам жанру гістарычнага дэтэктыву — «Дзікае паляванне караля Стаха», «Чорны замак Альшанскі». Ён здолеў дасканала раскрыць душу нашага народа ў творах «Каласы пад сярпом тваім», «Ладдзя роспачы» і многіх іншыя.**

За раманы «Нельга забыць» і «Чорны замак Альшанскі» Уладзімір Караткевіч быў узнагароджаны Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа і Дзяржаўнай прэміяй імя Якуба Коласа. Творы яго перакладаліся на многія мовы свету. Уявіць сёння нашу краіну без Караткевіча, бязмежна закаханага ў Беларусь, проста немагчыма. Яго творчасці прысвячаюцца кнігі, фільмы, навуковыя канферэнцыі. У яго гонар адкрываюцца помнікі і мемарыяльныя шыльды.

Ушаноўваўся Караткевіч і на канвертах ды паштоўках.

Першы канверт, прысвечаны Уладзіміру Караткевічу, пабачыў свет у Оршы ў 1996 годзе. Яго выпусціў калектыў газеты «Беларускі калекцыянер», якая на той час выдавалася ў Оршы, і рэдагаваў яе Алесь Сярожкін. На жаль, найцікавейшая беларускамоўная газета спыніла сваё існаванне на 25-м нумары з-за фінансавых праблемаў. На канверце быў выяўлены партрэт Уладзіміра Караткевіча аршанскага мастака Алеся Кажамякі. Над партрэтам — герб Пагоня і герб Оршы, а таксама бел-чырвона-белая стужка. Пад партрэтам пісьменніка тэкст: «Ёсць і ў вас, як у іншых, святыня, не давайце святыні псам!».





Выпуск гэтага першага канверта з Уладзімірам Караткевічам з'явіўся водгукам на сумнавядомы рэферэндум 14 траўня 1995 года, які правёў Лукашэнка, і пасля якога дзяржаўныя паслугачы рвалі нашу святыню — бел-чырвона-белы сцяг і скідвалі герб Пагоня.

Канверт выйшаў накладам 150 асобнікаў.

Другі канверт, прысвечаны беларускаму пісьменніку, надрукавала рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства паштовай сувязі «Белпошта» ў 2005 годзе. Канверт выйшаў з друку з нагоды 75-годдзя з дня нараджэння Караткевіча. На ім — каляровы партрэт пісьменніка і малюнак да аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха». Мастак А.Хвясюк.

Трэці канверт выйшаў з друку да 80-годдзя пісьменніка. Пастаралася з выданнем зноў «Белпошта». Гашэнне канверта адбылося ў Оршы 26 лістапада 2010 года. На канверце на месцы паштовай маркі надрукаваны партрэт Уладзіміра Караткевіча ў берэце, намаляваны героі яго твораў. З адваротнага боку канверта змешчана біяграфія пісьменніка. Мастак канверта Я. Сіманенка.

Яшчэ адзін канверт, прысвечаны Уладзіміру Караткевічу, таксама выпусціла «Белпошта» ў 2015 годзе. Гашэнне яго адбылося 26 лістапада 2015 года. На канверце змешчаны партрэт маладога Уладзіміра Караткевіча, якога некалі сфатаграфаваў паэт Сяргей Панізьнік, малюнак Арлена Кашкурэвіча да рамана «Каласы пад сярпом тваім» і тэкст: «Уладзімір Караткевіч. Беларускі пісьменнік, паэт, драматург, публіцыст, перакладчык». Канверт быў выпушчаны, дзякуючы праекту, які падрыхтавалі «Белпошта» сумесна з установай культуры «Музейны комплекс гісторыі і культуры Аршаншчыны». Дызайн канверта В. Бабундзінай.

Першая паштоўка з выявао Караткевіча з'явілася ў Маладзечне ў 1998 годзе. Яе выдаў маладзечанскі краязнаўца, літаратуразнаўца і бібліяфіл Міхась Казлоўскі. А аўтарам паштоўкі з'яўляецца мастак Юрый Герасіменка-Жызнеўскі.

Міхась Казлоўскі і Алесь Сярожкін у 2010 годзе выдалі яшчэ адну паштоўку з партрэтам Уладзіміра Караткевіча. Партрэт намаляваў мастак Г. Санькоўскі. Паштоўка выйшла да 80-годдзя з дня нараджэння пісьменніка.

27 чэрвеня 1992 года ў Оршы да яе 925-годдзя быў адкрыты помнік слыннаму земляку. Першапачаткова ён знаходзіўся на месцы згарэлага ў вайну дома, у які сям'я Караткевіча засялілася ў 1939 годзе, але пазней гэты помнік быў перанесены ў цэнтральны парк Оршы. У 2011 годзе Аршанскае міжраённае аддзяленне УП «Віцебскаблсаюздрук» выпусціла набор паштовак, прысвечаны Оршы. На адной з іх адлюстраваны і прыгожы помнік Уладзіміру Караткевічу.

Набор паштовак «Уладзімір Караткевіч — пісьменнік, грамадзянін, чалавек» быў выпушчаны ў Оршы ў 2012 годзе. Ён складаецца з 12 паштовак, на якіх выяўлены фотаздымкі пісьменніка і яго сям'і, а таксама змешчаныя радкі з ягоных вершаў. На адным з фотаздымкаў бачым Валодзю Караткевіча ў 1931 годзе, яму 1 годзік, на другім — ён побач з сястрой Наталляй у Оршы ў 1937 годзе, на трэцім — бацька пісьменніка Сямён Цімафеевіч Караткевіч у 1912 годзе, на наступным — маці Надзея Васільеўна Караткевіч, потым — уся сям'я Караткевічаў у 1953 годзе, кадр з фільма «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», дзе сам Караткевіч выканаў ролю татарына, і гэтак далей. У наборы былі выкарыстаны фотаздымкі з фондавых збораў установы культуры «Музейны комплекс гісторыі і культуры Аршаншчыны».

Гэта пакуль усе канверты і паштоўкі, якія былі прысвечаныя вялікаму пісьменніку Беларусі. Хочацца спадзявацца, што і надалей яго імя будзе ўшаноўвацца на розных беларускіх выданнях дзеля нашчадкаў і будучыні нашай літаратуры і культуры.

**Фотаздымкі з архіва аўтара**







# A-Fest: піва, ежа, сусветныя зоркі і прысвячэнне Куллінковічу

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У Лошыцкім парку ў трэці раз адбыўся A-Fest — свята піва, ежы і музыкі ў лепшых еўрапейскіх традыцыях.**

Гэта быў той рэдкі выпадак, калі ў грамадскім месцы можна было беспакарана піць піва на вачах у міліцыі. Але не толькі гэтым адзначыўся оўпэн-эйр, які традыцыйна ладзіць бровар «Аліварыя». Свята парадавала добрай арганізацыяй, вялікай колькасцю наведвальнікаў і сусветна вядомымі музычнымі хэдлайнерамі.

Фестываль паказаў, што беларусы навучыліся адпачываць сем'ямі. Бацькі прыходзілі з дзецьмі, і гэта не замінала тусавацца і добра бавіць час усім. З малымі можна было не толькі гуляць і танчыць каля сцэны: упершыню на A-Fest'е зладзілі цэлую дзіцячую пляцоўку. Тут можна было расфарбаваць пано ў чалавечы рост, пабудаваць міні-завод з лега, размаляваць твар аквагрымам.

А ўвогуле на фестывалі працавала ажно тры дзясяткі забаўляльных пляцовак з самымі рознымі актыўнасцямі: бокс-хакей, футбол, валейбол, піўное даміно, эстафеты на піўную тэматыку. Для аматараў больш спакойнага адпачынку працавалі зоны з размалёўваннем паштовак, «жывапісу» з хмелю, там жа можна было наведаць міні-музей піва, а інтэлектуалы маглі выпрабаваць сябе ў мазгабойні.

На свяце працаваў аграмадны фудкорт памерам з хакейную пляцоўку, дзе наведвальнікі радавалі свае страўнікі шаурмой, бургерамі, хот-догамі, роламі, нагетсамі, мясам на грылю і яшчэ шмат якім стрыт-фудам, запіваючы яго півам, квасам і іншымі напоямі. Але ж як ні стараліся арганізатары, пазбегнуць чэргаў па ежу ўсё ж не атрымалася, асабліва ў другую палову дня, калі наплыў гасцей свята значна павялічыўся. Затое для зручнасці гледачоў канцэрт можна было глядзець наўпрост з фудкорта дзякуючы вялікаму экрану, усталяванаму на вышыні амаль двух паверхаў.

> **A-Fest паказаў, што беларусы навучыліся адпачываць сем'ямі. Бацькі прыходзілі з дзецьмі, і гэта не замінала тусавацца і добра бавіць час усім. На фэсце зладзілі цэлую дзіцячую пляцоўку**

Адной з «фішак» сёлетняга фэсту стала правядзенне майстар-класаў па прыгатаванні бургераў на аснове піва на адкрытай кухні пад кіраўніцтвам Аляксандра Чыкілеўскага, які ўзначальвае Гільдыю шэф-кухараў Беларусі.

Музычную праграму адкрыў беларускі бэнд «Tanin Jazz», салістка якога Таццяна Гарошка распавяла, што спецыяльна для фэсту падрыхтавала новую праграму.

Працягнулі заводзіць публіку, якой цягам дня ўсё большала, магілёўцы з гурта «Bez Not» …і касмічная «Mustelide».

Ля сцэны станавілася ўсё гарачэй, і не толькі праз спёку: гурт «:B:N» парадаваў сваіх прыхільнікаў дзевяццю песнямі з новага альбому, а таксама «старымі баевічкамі».

А «старажылы» A-Fest «Akute», якія выступалі тут ужо другі раз, прадставілі новую песню «Для мяне».

Беларускі хэдлайнер фэсту «Без Білета» таксама выканаў некалькі песень са свежага альбому, а адну з кампазіцый Віталь Артыст праспяваў з поп-спявачкай Ганнай Шаркуновай. А песню «Аляска» гурт прысвяціў «хулігану і генію» Аляксандру Кулінковічу, якога не стала тыдзень таму.

Упершыню ў Мінску выступіў француз Ян Дэсталь з гурта «Modjo». І яшчэ адна сусветная зорка — спявачка, мадэль, бізнес-вумэн і мама чатырох сыноў брытанка Софі Эліс-Бекстар завітала на сцэну ў Лошыцкім парку.

Леташні A-Fest цягам дня наведалі каля 150 000 чалавек, і сёлета чакалі не менш — прынамсі, на ўсёй паляне перад галоўнай сцэнай не было вольнага месца, а да выхаду з парка трэба было праціскацца. Бадай, за выключэннем натоўпаў міліцыі, A-Fest сапраўды можна параўноўваць з найлепшымі еўрапейскімі оўпэн-эйрамі.

**Фота аўтаркі**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №588

Падпісана да друку 17.08.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.